№ 26 (720) 13 ліпеня 2011
www.nn.by
незалежная газета

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Што за рэзідэнцыя будуецца на беразе Мінскага мора?

Старонка 8



## Героі маўклівых пратэстаў

Старонка 6

## Вычварэнец застаўся беспакараным, памірыўся з пацярпелай

Старонка 10

Тэндэнцыі

## Пуцін хоча стварыць Еўразійскі саюз у процівагу Еўрапейскаму ўжо ў 2012-м

Улады РФ разлічваюць на тое, што дэкларацыя аб стварэнні Еўразійскага саюза будзе падпісаная ў 2012 годзе, а саюз пачне сваю працу ўжо з 2013 года, заявіў журналістам прэм'ер-міністр Уладзімір Пуцін па выніках перамоваў з прэм'ерамі Беларусі і Казахстана.

Стварэнне саюза мае стаць наступным этапам інтэграцыі пасля фармавання адзінай эканамічнай прасторы. «Гэта вянец таго, да чаго мы павінны імкнуцца», — сказаў Пуцін.

Мытны саюз, ЕўрАзЭС, а цяпер Еўразійскі саюз — запаветныя задумы кіраўніка Расіі.

**Сяргей Гезгала**

## Кампанія «Аляксандр і сыны» віншуе дырэктара Шоса Аляксандра Рыгоравіча

Смешнае віншаванне прабілася ў эфір «Рускага радыё». **Старонка 3.**

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду адабеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2**.

# Выходзім!

Міністэрства інфармацыі адклікала позву аб закрыцці «Нашай Нівы». **Старонка 2.**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Каманда «Нашай Нівы» вяртаецца з суда. Злева направа: Сяргей Макарэвіч, Андрэй Скурко, Сямён Печанко, Алег Гардзіенка.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Школа стрыптызу

Фотарэпарцёр «НН» пранік на заняткі. **Старонка 11.**

# Хлусня і статыстыка

Прадукты даражэюць, нягледзячы на «замарожванне цэн».

«Сталічная мэрыя святкуе перамогу над цэнамі», «Улады далі рады росту цэнаў» — загалоўкі дзяржаўных СМІ перапоўненыя аптымізмам. «Інфляцыя за месяц склала 8,6%», — пераконвае Белстат.

Будзем аб'ектыўнымі, некаторыя імпартныя тавары сапраўды нязначна патаннелі. Пастаўшчыкі закладалі ў іх завышаны курс даляра, а цяпер, калі на чорным рынку той застыў на адзнацы 6200 рублёў, былі вымушаныя адкаціць цану назад. Але гэта нязначны адкат цэнаў на агульным фоне росту.

Для параўнання «Наша Ніва» ўзяла свежы прайс-ліст дыскаўнтара «Еўраопт» і супаставіла яго з цэнамі двухмесячнай даўніны ў той жа краме.

**Працяг на старонцы 4.**

## Эдуард Занкавец: Захараў для мяне не прыклад

З былым галоўным трэнерам зборнай Беларусі па хакеі Эдуардам Занкаўцом мы сустрэліся ў пятніцу ля «Мінск-арэны». Там якраз праходзіла нейкая імпрэза, звязаная з «Гербалайфам». «Хм, я думаў, што «Гербалайф» дачынення да спорту не мае», — іранічна пацiскае плячыма Занкавец. **Старонка 5.**



# Выходзім!

**Міністэрства інфармацыі адклікала позву аб закрыцці «Нашай Нівы».**

Судовая справа аб ліквідацыі газеты «Наша Ніва» скончылася нечакана. Падзеі разгортваліся імкліва. У мінулы чацвер рэдакцыя атрымала судовае вызначэнне аб тым, што разгляд справы Міністэрства інфармацыі супраць «НН» аднаўляецца. Паседжанне прызначанае на вельмі блізкі тэрмін — 12 ліпеня. Гэта выклікала неўразуменне, бо на 26 ліпеня быў прызначаны разгляд касацыйнай скаргі «НН» на рашэнне суда.

На наступны дзень, у пятніцу, на адрас рэдакцыі было скіраванае новае папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі. Гэтым разам — за... адсутнасць падпіснога індэкса ў выходных звестках аднаго з нумароў газеты. І следам, па факце наяўнасці «двух і болей папярэджанняў» была распачатая адміністратыўная справа супраць выдаўца газеты. Артыкул 22.9 ч. 3 КаАП прадугледжвае штраф ад 100 да 500 базавых велічыняў (ад 3 500 000 да 17 500 000 рублёў). Прычым супрацоўнікі Мініфармацыі нерваваліся: стваралася ўражанне, што ім быў загад перадаць папярэджанне рэдактару газеты як мага хутчэй.

12 ліпеня да 14.30, калі мела пачынацца паседжанне, ля будынка Вышэйшага гаспадарчага суда сабралося каля трыццаці чалавек. Падтрымаць «НН» прыйшлі чытачы. Былі і экс-кандыдаты ў прэзідэнты Рыгор Кастусёў і Уладзімір Някляеў. Сакратар суда змушаны быў спешна шукаць большую залу, якая магла б змясціць усіх ахвотных. Само паседжанне было рэкордна кароткім: прадстаўнікі Міністэрства інфармацыі заявілі хадайніцтва аб... адкліканні позвы да «НН», а суддзя яго задаволіў.

Справы аб ліквідацыі «Нашай Нівы» больш не існуе. Аднак на дадзены момант газета мае чатыры папярэджанні, што дае Міністэрству інфармацыі падставу ў любы момант зноў запатрабаваць закрыцця.

На сайце міністэрства з'явілася афіцыйнае паведамленне. Згодна з ім, газету «Наша Ніва» не сталі закрываць «зыходзячы з прынцыпу свабоды масавай інфармацыі».

Чаму ўлады далі задні ход? Закрыццё «Нашай Нівы» выклікала рэзка негатыўную рэакцыю як унутры краіны, так і за яе межамі. Сотні чытачоў даслалі звароты пратэсту. Рада міністраў ЕС адзначыла пагрозу закрыцця «Нашай Нівы» і «Народнай волі» сярод трох асноўных праблемаў з грамадзянскімі свабодамі ў Беларусі.

Раней назіральнікі адзначылі двайстую рэакцыю Аляксандра Лукашэнкі на пытанне пра «НН» і «НВ» падчас прэс-канферэнцыі беларускім СМІ — адназначнага загаду знішчаць выданні не прагучала.

Нельга сказаць, што гэта канчатковая перамога чытачоў «НН». Беларусаў яшчэ чакае доўгая барацьба за свае грамадзянскія свабоды, без якіх нацыя не будзе канкурэнтаздольнай у сучасным свеце.

Але сёння мы выходзім, гэта галоўнае і гэта наша з вамі малая перамога.

Заўтра, 13 ліпеня, у Вышэйшым гаспадарчым судзе будзе разглядацца аналагічная позва Мінінфарма да яшчэ адной недзяржаўнай газеты — «Народная воля».

**Рэд.**

## Дзякуй чытачам, якія даслалі пратэсты ў падтрымку «НН»

Абраўнікава С.М. (Бабруйск)
Адзіночанка В. (Гомель)
Аляхно Е.С. (Бабруйск)
Аношка С.А. (Бялыніцкі р-н, Стараселле)
Астаповіч Г.К. (Асіповіцкі р-н, Дараганава)
Астроўская І. А. (Гродна)
Багінская А.Н.Р. (Мінск)
Баліцкі М.І. (Гродна)
Банявічук Л. (Мінск)
Бародзін С.Дз. (Асіповіцкі р-н, Дараганава)
Барушка В. (Мінск)
Батон Дз.М. (Бабруйск)
Бельская Т. У. (Гродна)
Богуш М.І. (Мінск)
Богуш В.У. (Мінск)
Бульхеллер В.І. (Гродна)
Буркін С.В. (Бабруйск)
Бусел М. (Светлагорскі раён, Дуброва)
Бялоў С. (Бабруйск)
Вавілаў У.І. (Бабруйск)
Валошчык М.А. (Белаазёрск)
Варанчуноў В.Ч. (Бабруйск)
Васілеўская Н.М. (Маладзечанскі р-н, Алехнавічы)
Ваўчок Л.М. (Асіповіцкі р-н, в.Радуцічы)
Вора В.М. (Лельчыцы)
Гадун С.В (Бабруйск)
Галубец Л.У. (Мінск)
Гарбуноў Дзм.П. (Мінскі р-н, в.Юзуфова)
Гарулька В.М. (Мінск)
Гаршкова В.Ф. (Бабруйск)
Гірко Г.А. (Мінск)
Говар Т.М. (Бабруйск)
Горэж М.А. (Асіповіцкі р-н, Дараганава)
Грынько В.Н. (Асіповічы)
Грыцава Н.А. (Мінск)
Гучок Я.С. (Мінск)
Дабравольскі В.У. (Бабруйск)
Данільчык Л.Е. (Бабруйск)
Дзергуноў Д.Ю. (Бабруйск)
Дзямідчык Д.І. (Барысаў)
Дзям'яненка Т.В. (Мінск)
Доўбік А.С. (Карэліцкі р-н, Жухавічы)
Драпеза І.Л. (Бабруйск)
Дунецкі А. (Салігорск)
Ермаленскі П.А. (Бабруйск)
Ермаловіч О.І. (Бабруйск)
Жолудзеў В.М. (Мінск)
Жук В.Я. (Гродна)
Жукаў С.Э. (Бабруйск)
Занурдзееў Л.А. (Бабруйск)
Знак І.М. (Мінск)
Зубрыкава Я.М. (Бабруйск)
Зыль І.М (Мінск)
Іванова Н. Я. (Гродна)
Ільюшчанка У.М. (Бабруйск)
Кавалевіч Г.С. (Бяроза)
Кавалёў С.С. (Бабруйск)
Кавалёў В.Г. (Бабруйск)
Кавалькоў М. Г. (Бабруйск)
Казімірчык І.С. (Бабруйск)
Казлоў А.Н. (Бабруйск)
Калеснік А.Ф. (Асіповічы)
Калеснікаў А.В. (Бабруйск)
Калоша І.У. (Бабруйск)
Калоша А.В. (Бабруйск)
Каненка В. В. (Гродна)
Канцадайлава Е.А. (Бабруйск)
Катляроў А.А. (Мінск)
Качан В.М. (Бабруйск)
Качан І.І. (Бабруйск)
Кед Н.В. (Бабруйск)
Кірылюк Н.В. (Мінск)
Кліменценка С. (Мінск)
Клыга А.Н. (Бабруйск)
Крашэўская Л.У. (Мінскі р-н, Шчомысліца)
Кулеш А.М. (Асіповічы)
Курбашоў А.Ю. (Бабруйск)
Куца С.В. (Мінск)
Кушнер С.Е. (Бабруйск)
Лабачоў Г.У. (Бабруйск)
Ларкоўскі В.В. (Асіповічы)
Лаўроў В.А. (Бабруйск)
Лацінскі С.В. (Бабруйск)
Лебедзева С.В. (Бабруйск)
Лешчанок У.М. (Хойніцкі р-н, Казялужжа)
Лукомская Г. (Бабруйск)
Лунін В.С. (Бабруйск)
Мазавецкая Т.Д. (Мінск)
Мазанік І.І. (Пухавіцкі р-н, Паддзягцярня)
Макаловіч І. (Мінск)
Маковіч Л.Л. (Бабруйск)
Мароз З.Г. (Бабруйск)
Мартыновіч С.А. (Бабруйск)
Масіноўскі В.Л. (Бабруйск)
Меленювіцкі Е.Е. (Бабруйск)
Мельнікаў М.Ф (Гродна)
Мелянюк П.Р. (Брэст)
Мілічанок І.А. (Бабруйск)
Міхалап В.Н. (Бабруйск)
Міхновіч К.П. (Мінск)
Міцура І.А. (Бабруйск)
Мухін І.А. (Магілёў)
Няпомняшчых У.М. (Гомель)
Паздзеева Т.Г. (Асіповічы)
Панфіловіч А.І. (Салігорск)
Парахневіч Д.У. (Мінск)
Парфянкоў В. (Мінск)
Пастноў І.А. (Мінск)
Паўленка Ж.Д. (Бабруйск)
Пашык В.Б. (Бабруйск)
Петрачэнка С.Ф. (Бабруйск)
Пілячынскі У.В. (Докшыцкі р-н, Свіркі)
Пірава Л.А. (Бабруйск)
Пражэрын В.М. (Бабруйск)
Радзімоўскі Ю.К. (Бабруйск)
Радзімоўская Г.У. (Бабруйск)
Радкевіч Т.Э. (Бабруйск)
Родзічаў А.У. (Бабруйск)
Рудкоўская В.Л. (Бабруйск)
Руднеў А.І (Бабруйск)
Сакалоўскі А.В. (Асіповічы)
Сакоўскі П.Н. (Асіповічы)
Севасцьянава Н.В (Бабруйск)
Серафімовіч Д.Н. (Бабруйск)
Сімухін В.І. (Бабруйск)
Сіняўская Л.М. (Мінск)
Сіўко Ф.І. (Віцебск)
Скапінцава А.С. (Бабруйск)
Скобелева Г.Ф. (Пухавіцкі р-н, Энергія)
Солтан В.В. (Валожынскі раён, Івянец)
Стадомскі Ю.М. (Гомель)
Сушчэўскі А.А. (Бабруйск)
Тадаровіч І. А. (Гродна)
Талерчык А. С. (Гродна)
Тамашоў М.В. (Асіповіцкі р-н, Дараганава)
Таруц У. (Брэст)
Тоўкач В.М. (Мінск)
Фадзеева Т.М. (Мінск)
Філіпчык А.В. (Бабруйск)
Церахава І. (Мінск)
Ціханава М.Б. (Бабруйск)
Ціханавец С.В. (Докшыцкі р-н, Бягомль)
Чаркасаў А.Б. (Бабруйск)
Чарнышэнка І.В. (Бабруйск)
Чучын А.І. (Асіповічы)
Чучына Т.Н. (Асіповічы)
Шаравар М.Л. (Салігорск)
Шарамета А.М. (Брэст)
Шаўчук А.І. (Гродна)
Шкірманкоў Ф. (Слаўгарад)
Шобін А.В. (Бабруйск)
Шумілаў А.Б. (Бабруйск)
Юневіч Т.І. (Дрыбінскі раён, Дрыбін)
Яновіч С.М. (Бабруйск)
Ясімчык С.Ф. (Бабруйск)

(У спісе тыя, хто копіі сваіх лістоў скіраваў у Рэдакцыю «НН».)

## Не забудзьцеся падпісацца!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 10000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazu дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Адд. № 539 ААТ «Белінвестбанк»,

вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпіска праз «Белпошту»** на 2-е паўгоддзе.

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) 9210 руб./месяц

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) 10626 руб./месяц.

Падпісацца можна на кожнай пошце.

### Сцісла

• **Мясніковіч у Маскве: Беларусь у поўным аб'ёме выканае ўмовы па крэдыце ЕўрАзЭС.** Таксама прэм'ер прапанаваў расійскім і казахскім бізнэсоўцам узяць удзел у прыватызацыі ў Беларусі. Аб гэтым ён заявіў у Маскве на канферэнцыі «Ад Мытнага саюза да АЭП: інтарэсы бізнэсу». Як адзначыў прэм'ер, могуць быць прыватызаваныя аб'екты фармацэўтыкі, мікраэлектронікі і мабільнай сувязі. Ён не выключыў і прыватызацыі ў сферы машынабудавання і металургіі.

• **У Казахстане прайшла акцыя пратэсту супраць Мытнага саюза.** Актывісты моладзевага клуба «Рух пен цiл» у аўторак у Алматы правялі марш нязгодных. Яны лічаць, што Мытны саюз уяўляе пагрозу незалежнасці Казахстана. Акрамя таго, з уступленнем Казахстана ў саюз адчувальна выраслі цэны на аўтамабілі, паліва і прадукты харчавання. Зусім як у Беларусі.

• **Беларускія дзеці ў Балгарыі атруціліся бруднай вадой.** Інцыдэнт адбыўся ў гатэлі «Грын Парк» у Кітэне. Там адпачываюць 130 беларускіх дзяцей. На жываты захварэлі чатыры пятыя дзяцей.

• **У Асіповічах злавілі збеглых з ізалятара.** Абодва жыхары Асіповічаў, якія ўцяклі 28 чэрвеня з ізалятара часовага ўтрымання Асіповіцкага РАУС, затрыманыя. У ІЧУ мужчыны былі змешчаныя за ўчыненне крадзяжоў у асабліва буйных памерах. Аднаго з іх затрымалі 2 ліпеня каля пасёлка Сасновы, другога — 11 ліпеня ў лесе паблізу вёскі Дворак.

**СМ**

### Футбольнае лета

**Чацвер, 14 ліпеня.** Ліга Еўропы. 1-ы матч 2-га раўнду. ФК «Мінск» — «Газіянтэпспор» (Турцыя). Стадыён «Дынама». Пачатак а 20-й. Білет — 10 000.

**Чацвер, 14 ліпеня.** 1-ы матч 2-га раўнду. «Шахцёр» Салігорск — «Вентспілс» Латвія. Салігорск, стадыён «Будаўнік». Пачатак а 20-й.

**Аўторак, 19 ліпеня.** Матч у адказ 2-га раўнду Лігі чэмпіёнаў. БАТЭ (Барысаў) — «Лінфілд» (Белфаст). Барысаў. Стадыён «Гарадскі». Пачатак а 19-й. Білеты можна купіць на kvitki.by. Першая гульня пройдзе ў Белфасце 13 ліпеня.

### Самае чытанае на nn.by ад 6 да 12 ліпеня

1 Паліцэйскі рэжым ва ўсёй красе. Акцыі пратэсту выклікаюць непрапарцыйную рэакцыю ўладаў

2 Кампанія «Аляксандр і сыны» віншуе дырэктара Шоса Аляксандра Рыгоравіча

3 1-ы канал: Гэта нагадвае захоп і нават кіднепінг

4 «Завтра»: Лукашэнку здадуць беларускія генералы, чыноўнікі і прамыслоўцы

5 Пшыкуну зрабілі шыкоўную старонку Вконтакте

6 «Хлапок» — вясёлы фільмік

7 Затрыманні жыхароў Мінска на Паўднёвым Захадзе. Людзі агентам у цывільным: «Бандыты!» — відэа

8 Школа стрыптызу

9 Аднарукага чалавека аштрафавалі за апладысменты + фота

10 Выходзім! Важная перамога грамадства: Мінінфа адклікала зварот аб закрыцці «Нашай Нівы»

# Акрамя апладысментаў — яшчэ і будзільнікі

Завадатар Вечароў Апладысментаў заклікае не хлопаць, калі гэта пагражае затрыманнем.

Серадовыя акцыі пратэсту працягнуліся на мінулым тыдні. Праўда, арганізатары пачалі шукаць новыя фарматы.

6 ліпеня арганізатары вырашылі не збірацца на Кастрычніцкай. Яны заклікалі людзей сабрацца ў дзевяці розных пунктах, ва ўсіх раёнах горада.

Месцы збору людзей яшчэ ад абеду пачалі ачэпліваць спецслужбы. Напрыклад, да гіпермаркета «Гіпа» не пускалі з прычыны таго, што гандлёвы цэнтр нібыта быў замінаваны.

У выніку на сустрэчу сабралося пару соцень чалавек, як ля ўнівермага «Беларусь» (Заводскі раён) і Лядовага палаца (Фрунзенскі раён), а вось да Палаца спорту не прыйшоў ніхто. У некаторых месцах жыхары Мінска нават аказвалі супраціў людзям у цывільным, якія спрабавалі затрымліваць пратэстоўцаў. Асабліва адчайна адбівалі людзей жанчыны.

Характэрным момантам сталі масавыя затрыманні журналістаў. У сераду ў Мінску іх было затрымана 23! Рэпарцёра «Нашай Нівы» Ягора Марціновіча на ўваходзе ў аўтазак моцна ўдарылі кулаком у жывот. Ён кажа, што так «сустракалі» ўсіх затрыманых: для сілавікоў гэта, выходзіць, норма.

Большасць журналістаў адпусцілі праз пару гадзін. А вось звычайных жыхароў сталіцы — не. Прысуды дэманстрантам гэтым разам былі жорсткімі. Або розныя тэрміны зняволення, або мільённыя штрафы.

Асуджаных спачатку трымалі ў ізалятары на Акрэсціна, а потым амаль усіх перавялі ў жодзінскае СІЗА. Кажуць, гэта звязана з масавымі арыштамі футбольных хуліганаў падчас бойкі фанатаў мінскіх «Дынама» і «Партызана». Маўляў, улады не хацелі «кантакту» пратэстоўцаў з юнакамі.

Калі меркаваць па спісах затрыманых, большасць — гэта новыя людзі, якія раней не арыштоўваліся. Дарэчы, жыхары Мінска імгненна наладзілі каардынацыю дапамогі сядзельцам **(старонка 7)**. На ўсіх ідуць перадачы, людзі падвозяць прадукты і тавары першай неабходнасці каардынатарам, тэлефоны якіх публікуюцца ў інтэрнэце.

На 13 ліпеня арганізатары зноў памянялі фармат. Яны шукаюць для пратэстаў новыя формы.

Адзін з завадатараў маўклівых серадаў Вячаслаў Дзіянаў выклаў наступнае бачанне: ён просіць збірацца каля гандлёвых цэнтраў, проста гуляць, есці. Збор у людных месцах раёнаў удзельнікі мінулым разам палічылі вялікай удачай для прапаганды ідэй пратэсту.

Пасля ж людзі будуць рухацца да метро і ехаць на станцыі «Плошча Перамогі» і «Акадэмія навук». А там гуляць па праспекце.

Арганізатары просяць не хлопаць, калі ёсць небяспека затрымання. «Каб усё ўдалося, ставім будзільнік на мабільніку на 20:00». У той час, як загучаць будзільнікі, акцыя лічацца скончанай.

«Да чалавека ў руху прычапіцца нашмат складаней», — кажа Вячаслаў Дзіянаў.

**Зміцер Панкавец**




**Жыхары Мінска спрачаюцца з асобамі ў цывільным, якія блакуюць цэнтр горада.**

**Правакацыйныя заклікі да ўжыцця сілы**

Насцярожвае той факт, што цяпер у сацыяльных сетках час ад часу гучаць заклікі браць з сабой на акцыі газавыя балоны, кастэты, каб аказваць супраціў. Арганізатары адхрышчваюцца ад такіх заяваў. Выглядае, што гэта чыстай вады правакацыя, каб даць падставы для разгону акцый і рэпрэсій. Сіла і прывабнасць «Рэвалюцый праз сацыяльную сетку» была якраз у іх негвалтоўнасці.

## Івашкевіч: Адных заклікаў «ШОС» мала

На 8 кастрычніка апазіцыя рыхтуе Усебеларускі народны сход.

Ён мае прайсці ў Мінску, а таксама буйных гарадах краіны. З такой ідэяй выступіў шэраг партый і арганізацый.

Сярод патрабаванняў Народнага сходу: спыненне росту цэнаў, змена эканамічнай палітыкі, аднаўленне грамадзянскіх свабод.

«Ідэя Народнага сходу выклікае жывую цікавасць, бо ўзровень жыцця не проста ўпаў, а абрынуўся, — кажа Аляксандр Мех з Кобрына. — Рабочыя прадпрыемстваў горада абяцалі даць сваіх прадстаўнікоў у аргкамітэт».

Прадстаўнік прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Мікалай Пахабаў расказаў, што на заводах ужо распаўсюджана 10 тысяч улётак «Не — жабрацтву народа». «Адказнасць за галечу людзей і жаласнае становішча ў эканоміцы цалкам ляжыць на кіраўніцтве Беларусі», — напісана ва ўлётцы.

Паводле Пахабава, людзі на заводах рыхтуюць італьянскія забастоўкі, калі працаўнікі ўсё робяць марудна.

Генадзь Раманюк працуе на «Беларуськаліі»: «Людзей хочуць залагодзіць прэміямі», — расказвае ён.

Івашкевіч верыць, што Сход зможа пераламіць сітуацыю ў краіне: «Некалькі тысяч чалавек яшчэ не могуць. Сітуацыя зменіцца, калі нас будзе ў 10–20 разоў болей. Адных заклікаў «ШОС» замала.

Для правядзення сходаў арганізатары будуць прасіць дазволеныя мясцовымі ўладамі пляцоўкі.

**ЗП**

## Кампанія «Аляксандр і сыны» віншуе дырэктара Шоса Аляксандра Рыгоравіча

Смешнае віншаванне прабілася ў эфір «Рускага радыё».

Прыкладна ў 13:40 у пятніцу ў праграме «Стол замоваў» вядучая зачытала наступную віншаванку: «Калектыў цудоўнага прадпрыемства «Аляксандр і сыны» віншуе свайго кіраўніка Шоса Аляксандра Рыгоравіча з павышэннем. Збыліся вашы мары і надзеі. Венесуэла — ваша любімая краіна. Мы будзем сумаваць без вас, бо вы былі з намі амаль сямнаццаць гадоў. Вашы калегі».

«Ну што ж, і ў Венесуэле ёсць інтэрнэт, і заўсёды можна зайсці на сайт Русрадыё», — адкаментавала гэта вядучая.

«У нашай дзяўчынкі цяпер ступар. Яна далёкая ад палітыкі і ўвогуле не зразумела, пра што гаворка, — пракаментавалі сітуацыю на «Рускім радыё». — Адбыўся казус, камусьці ад гэтага смешна, але я не разумею, чаму мы павінны адмазвацца».

«Рускае радыё ў Беларусі» — гэта філія аднайменнай радыёстанцыі, што працуе ў Расіі. На хвалях «Рускага радыё» гучыць толькі рускамоўная музыка. Гэта выклікае крытыку беларускіх грамадскіх аўтарытэтаў: яны кажуць, што радыё русіфікуе.

Навіны палітыкі і грамадскага жыцця «Рускае радыё» імкнецца не асвятляць, аддаючы перавагу забаўлялыі шчыне і навінам пра зорак расійскай сцэны.

Ніводнай радыёстанцыі, дзе магчыма было б пачуць альтэрнатыўныя галасы, у Беларусі не існуе.

**ЗП**

## Гайдукевіч гатовы вывесці сваю партыю на пратэсты

З сенсацыйнай заявай выступіў старшыня прыўладнай Ліберальна-дэмакратычнай партыі.

«Цярпенне ў нашай партыі сканчаецца. Шаленства — працягваць затрымліваць людзей за тое, што яны пляскаюць! Хай мяне пачуюць улады: трэба гэта спыняць», — заявіў палітык.

Гайдукевіч кажа, што гатовы заклікаць прыхільнікаў сваёй партыі выходзіць на акцыі пратэсту. Двойчы раней Гайдукевіч удзельнічаў у прэзідэнцкіх выбарах як тэхнічны кандыдат.

Цікава, што сын Сяргея Гайдукевіча — кіраўнік Фрузенскага РУУС Мінска. Ён асабіста кіраваў разгонам акцыі 6 ліпеня.

Сам Гайдукевіч на гэта заявіў апраўдальна: маўляў, усе затрыманыя кажуць, што ў Фрунзенскім РУУС да іх ставяцца найбольш гуманна.

**ЗП**

## «Крэмль плюнуў у душу «Славянскага базару»

Сёлета прэзідэнт Расіі Дзмітрый Мядзведзеў не даслаў віншаванне ўдзельнікам «Славянскага базару». За гэты факт зачапілася дзяржаўнае агенцтва БЕЛТА, бо потым адсутнасць тэлеграмы ад кіраўніка Расіі абсмакталі ў эфіры БТ.

«Упершыню за 20 гадоў сваёй гісторыі фестываль «Славянскі базар» апынуўся ўцягнуты ў палітыку, — грымеў у сваім рэпартажы Андрэй Крывашэеў. — Упершыню гасцей і ўдзельнікаў мультыкультурнай, але ў першую чаргу славянскай з'явы не павіншаваў прэзідэнт Расіі. У фестывалю ёсць душа, кажуць яго ўдзельнікі. Сваім грэбаваннем Крэмль у гэтую душу плюнуў. Такое меркаванне дзеячаў мастацтва».

Насамрэч «Базар» быў уцягнуты ў палітыку заўжды. Фестываль адыгрываў значную ролю для лукашэнкаўскай прапаганды. Нароўні з «Дажынкамі» і святкаваннямі Дня Перамогі і 3 ліпеня ён выкарыстоўваецца для дэманстрацыі поспехаў улады і яе пераемнасці савецкай традыцыі.

За вялікія грошы на «Славянскі базар» прывозяць пераважна зорак расійскай поп-сцэны. Бюджэт фестывалю значна перавышае выдаткі на іншыя культурныя імпрэзы ў Беларусі.

Два тыдні таму ў той жа праграме лукашэнкаўскага тэлебачання быў выказаны тэзіс, што прэзідэнт Расіі Дзмітрый Мядзведзеў не прыляцеў у Брэст 22 чэрвеня, бо яму было б сорамна глядзець у вочы расійскім ветэранам, якія, як было заяўлена, жывуць на радзіме ў галечы.

**Сяргей Гезгала**

# Хлусня і статыстыка

Працяг са старонкі 1.

З табліцы можна зразумець, наколькі змянілася цана з 10 мая да 10 ліпеня, а таксама палюбавацца на паказчык інфляцыі ад Белстата. У афіцыйнай статыстыцы прыведзены рост цаны з мая па чэрвень, гэта апошнія апублікаваныя дадзеныя.

Варта ўлічваць, што Белстат агалошвае лічбы толькі па катэгорыях, напрыклад, «Малако і малочныя прадукты». Гэта значыць, што малако, кефір, смятана, ёгурты ў сярэднім падаражэлі на 0,7%.

Дзяржаўная статыстыка ўсё ж угледзела, што ў краіне падаражэлі ўсе прадукты, апроч гароднiны, але лічбы працэнтаў выглядаюць нерэальна маленькімі. Цана каўбасы нібыта вырасла ўсяго на 3,9%, а не на 26%, як у знойдзеным намі прыкладзе. Можа быць, гэта каўбаса міністра сельскай гаспадаркі Міхаіла Русага, які ведае сакрэтныя месцы продажу?.

Белстатаўская гарбата падаражэла ўсяго на 17%, у той час як у «Еўраопце» яе цана вырасла ўдвая.

Амаль не змяніліся цэны на малочную прадукцыю, і ў гэтым пытанні з дзяржаўнай статыстыкай не паспрачаешся.

Што таннее, дык гэта гародніна, але выключна праз надыход лета. Толькі ранняя бульба за 7000 рублёў за кілаграм не дазваляе назваць цэны нізкімі. Як ні круці, беларуская бульба — не імпартны тавар, і да курса даляра яе ніяк не прывяжаш.

**Яўген Васількоў**

| Прадукт | Цана 10.05.2011 | Цана 10.07.2011 | Рост цаны (у %) | Афіцыйны рост цаны (у %) |
|---|---|---|---|---|
| Гарбата «Ліптан», 100 г | 10960 | 20690 | 89% | 17% |
| Макароны «Барымак», 1 кг | 2820 | 4990 | 77% | 14% |
| Мяса курынае бройлераў, 1 кг | 9770 | 14700 | 50% | 11% |
| Рыс, 0,8 кг | 4390 | 6990 | 59% | 10% |
| Бананы, 1 кг | 6190 | 6590 | 6,5% | 9,9% |
| Апельсіны, 1 кг | 6190 | 9990 | 61% | 9,9% |
| Нектар «Сочный» (мультыфрут), 1 л | 3020 | 4950 | 64% | 8,2% |
| Вараная каўбаса, в/с, 1 кг | 11690 | 14720 | 26% | 3,9% |
| Хлеб «Нарачанскі», 1,25 кг | 3130 | | | 1,7% |
| Малако (3,2%), 1 л | 1800 | 1830 | 1,7% | 0,7% |
| Кефір (3,2%), 1л | 1840 | 1850 | 0,5% | 0,7% |
| Бульба (ранняя) | 4990 | 6990 | 40% | -8% |
| Памідоры, 1 кг | 9490 | 8830 | -7,5% | -8% |
| Агуркі, 1 кг | 8020 | 3900 | -105% | -8% |

## Што купляюць беларусы?

Летась было прададзена алкаголю амаль на $2 мільярды.

Белстат апублікаваў статыстычныя звесткі, якія датычаца рознічнага тавараабароту ў Беларусі за 2010 год. Своеасаблівыя топ-10 складзеныя для прадуктаў і гаспадарчых тавараў. Агульны тавараабарот склаў 51 трыльён рублёў, гэта каля $17 мільярдаў.

Звяртае на сябе ўвагу велізарны аб'ём продажаў алкаголю — гарэлка, віно і піва «пацягнулі» на $1 838 мільёнаў. Калі дадаць сюды кошт слабаалкагольных напояў, то лічба вырасце яшчэ больш. Прыкладна столькі ж — каля $1,9 мільярда — беларусы аддалі за мяса, птушку і каўбасныя вырабы.

Сярод нехарчовых тавараў упэўненае першае месца займае бензін. Яго ў краіне купляюць на тую ж суму, што і гарэлку... Роўнасць дэманструюць і цыгарэты з лекамі, па $645 мільёнаў у кожнай з катэгорый.

**ЯВ**




**А вы кажаце, усё даражэе**

| Прадукты | | Нехарчовыя тавары | |
|---|---|---|---|
| **Прадукт** | **Агульны кошт набытага** | **Прадукт** | **Агульны кошт набытага** |
| 1. Каўбасныя вырабы і вяндліна | $1,05 мільярда* | 1. Бензін | $872 мільёны |
| 2. Мяса і птушка | $917 мільёнаў | 2. Лекавыя сродкі | $647 мільёнаў |
| 3. Гарэлка і лікёра-гарэлкавыя | $852 мільёны | 3. Тытунёвыя вырабы | $645 мільёнаў |
| 4. Малако і малочнае | $715 мільёнаў | 4. Дызпаліва | $470 мільёнаў |
| 5. Слодычы | $669 мільёнаў | 5. Будматэрыялы | $401 мільён |
| 6. Віно | $545 мільёнаў | 6. Электратавары | $386 мільёнаў |
| 7. Хлеб і булкі | $489 мільёнаў | 7. Мэбля | $338 мільёнаў |
| 8. Піва | $441 мільён | 8. Абутак | $329 мільёнаў |
| 9. Безалкагольныя напоі | $313 мільёнаў | 9. Парфумерыя і касметыка | $312 мільёнаў |
| 10. Рыба і дары мора | $309 мільёнаў | 10. Аўтамабілі | $276 мільёнаў |

*Рублі пераведзеныя ў даляры па курсе 2978,1 — сярэднім за 2010 год

## Эканамічны цуд

«Нафтан» і Мазырскі НПЗ — самыя стратныя прадпрыемствы Беларусі.

За студзень-сакавік 2011 года нафтаперапрацоўчыя заводы краіны спрацавалі ў мінус. Іх агульныя страты склалі $120 мільёнаў. $65 мільёнаў з іх — «доля» «Нафтана». У тройку аўтсайдараў трапіла піваварная кампанія «Крыніца», але яе «мінус» параўнальна невялікі, усяго $3 мільёны.

Нагадаем, што летась і «Нафтан», і Мазырскі НПЗ былі аднымі з самых прыбытковых прадпрыемстваў краіны.

А вось у лідарах апынуўся «Беларуськалій», які за тры месяцы атрымаў прыбытак $420 мільёнаў. За ім ідуць «Беларусбанк» ($38 мільёнаў) і «Гомельтранснафта Дружба» ($35 мільёнаў). У дваццатцы самых прыбытковых прадпрыемстваў нямала банкаў — як дзяржаўных, так і прыватных.

**ЯВ**

### Топ-10 самых стратных беларускіх ААТ у I квартале 2011 г., дадзеныя Мінфіна

| № | Кампанія | Страты, млн рублёў |
|---|---|---|
| 1 | Нафтан | 197 731 |
| 2 | Мазырскі НПЗ | 165 826 |
| 3 | Крыніца | 8 662 |
| 4 | Бярозаўскі КБІ | 5 974 |
| 5 | МЗКТ | 5 779 |
| 6 | Лідаагрfalraмаш | 5 297 |
| 7 | Віцебскаблаўтатранс | 4 632 |
| 8 | Свінакомплекс «Барысаўскі» | 4 561 |
| 9 | Аршанскі авіярамонтны завод | 4 539 |
| 10 | Даламіт | 4 402 |

### Топ-20 самых прыбытковых беларускіх ААТ у I квартале 2011 г., дадзеныя Мінфіна

| № | Кампанія | Прыбытак, млн рублёў |
|---|---|---|
| 1 | Беларуськалій | 1 267 794 |
| 2 | Беларусбанк | 113 734 |
| 3 | Гомельтранснафта Дружба | 106 019 |
| 4 | БелАЗ | 95 570 |
| 5 | Белаграпрамбанк | 80 510 |
| 6 | Беларуская валютна-фондавая біржа | 78 961 |
| 7 | Прыёрбанк | 69 408 |
| 8 | БПС-банк | 69 061 |
| 9 | МАЗ | 62 558 |
| 10 | Белгархімпрам | 48 923 |
| 11 | Гродна Азот | 44 770 |
| 12 | Белшына | 37 830 |
| 13 | Белінвестбанк | 33 511 |
| 14 | ГТФ Нёман | 30 664 |
| 15 | Белзнешэканамбанк | 30 150 |
| 16 | Брэстгазаапарат | 29 001 |
| 17 | Белгазпрамбанк | 27 117 |
| 18 | Гомельскі хімічны завод | 26 514 |
| 19 | МАПІД | 26 492 |
| 20 | Керамін | 26 423 |

## Крэдыт ЕўрАзЭС выратаваў золатавалютныя рэзервы

Але 30% атрыманых грошай адразу праелі.

Па выніках чэрвеня аб'ём золатавалютных рэзерваў Беларусі, разлічаны па стандартах МВФ, павялічыўся на $557,7 мільёна. На 1 ліпеня ён склаў $4,15 мільярда ў эквіваленце.

Разам з тым, у параўнанні з пачаткам года аб'ём ЗВР краіны паменшыўся на $879,8 мільёна, ці на 17,5%.

Адкуль узяліся грошы? Дапамог першы транш крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС. Лагічна было б, калі б золатавалютныя рэзервы павялічыліся на тыя самыя атрыманыя $800 мільёнаў. Тым не менш, як высветлілася, дзяржава ўжо паспела «праесці» $242 мільёны, гэта каля 30% крэдыту.

**ЯВ**

## Беларускае прадпрыемства па выпуску мабільнікаў прададуць Кітаю

Спаборнічаць за пакет акцый будуць карпарацыі ZTE і Huawei.

Ужо сёлета адбудзецца конкурс па продажы 49,726% акцый ААТ «Прамсувязь». Прадпрыемства ўваходзіць у склад Міністэрства сувязі і інфарматызацыі. Яно займаецца выпускам тэхнікі — банкаматаў, антэн і нават мабільнікаў. Беларускія сотавыя тэлефоны рабіліся пры падтрымцы Кітая, але ўсё адно не атрымалі распаўсюду на тэрыторыі краіны.

Першапачаткова конкурс планавалася правесці ў 2012 годзе. Аднак, паколькі да актыву выказалі цікавасць адразу два інвестары, кітайскія карпарацыі ZTE і Huawei, было вырашана правесці конкурс сёлета.

Цяпер вядзецца падрыхтоўчая праца, у прыватнасці, праводзіцца ацэнка рынкавага кошту акцый арганізацыі.

**ЯВ**

## Банкі і нафтаперапрацоўка — на продаж

Мясніковіч прапанаваў Азербайджану закупіцца.

Візіт прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Мясніковіча ў Азербайджан не скончыўся заключэннем шматмільённых пагадненняў. Чыноўнік прыехаў на Каўказ, каб дамовіцца наконт будучых інвестыцый, але пакуль узгодненая толькі сумесная вытворчасць светлавыёднай тэхнікі.

Іншыя, больш вялікія праекты, знаходзяцца ў стане абмеркавання. Як высветлілася, Беларусь параіла Азербайджану ўзяць удзел у прыватызацыі акцый Мазырскага НПЗ і «Нафтана». Апроч таго, Міхаіл Мясніковіч задаўся пытаннем, чаму б каўказскай краіне не купіць адзін з беларускіх банкаў.

**ЯВ**

## Стаўка рэфінансавання разганяецца да 20%

Яна была такой у 1992 і 2004 гадах.

З 13 ліпеня 2011 года стаўка рэфінансавання Нацбанка павялічыцца яшчэ на 2% і дасягне круглай лічбы 20% гадавых. Папярэдняе павелічэнне адбылося 22 чэрвеня, тады стаўка таксама вырасла на 2%.

У гэтым годзе стаўка ўзрастае ўжо шосты раз, але ўсё адно адстае ад узроўню інфляцыі.

20% — стаўка сярэдзіны 2004 года. На такім самым узроўні яна трымалася і ў пачатку 1992 года.

Рост стаўкі фінансавання ўздыме стаўкі крэдытаў і дэпазітаў. На цяперашні момант прыбытковасць укладаў ужо дасягае 30% за год. Спажывецкія крэдыты ў некаторых банках выдаюцца — страшна сказаць — аж пад 33% гадавых.

**ЯВ**

# Эдуард Занкавец: Захараў для мяне не прыклад

З былым галоўным трэнерам зборнай Беларусі па хакеі Эдуардам Занкаўцом мы сустрэліся раніцай у пятніцу ля «Мінск-арэны». Там якраз праходзіла нейкая імпрэза, звязаная з «Гербалайфам». «Хм, я думаў, што «Гербалайф» дачынення да спорту не мае», — іранічна паціскае плячыма Занкавец.



Былы трэнэр зборнай: Галоўны занятак цяпер — гэта сям'я. Маёй дачцэ хутка восем месяцаў.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### «Рана ці позна гэта павінна было адбіцца»

**«Наша Ніва»: Эдуард Канстанцінавіч, чым займаецеся пасля звальнення з пасады трэнера зборнай?**

**Эдуард Занкавец:** На дадзены момант у мяне творчы адпачынак. Галоўны занятак — гэта сям'я. Маёй дачцэ хутка восем месяцаў. Таму ўсе заняткі звязаныя якраз з яе выхаваннем. Ніякіх прапановаў, якімі б можна было пахваліцца, пакуль не маю.

**«НН»: Што ж не ўдалося на гэтым чэмпіянаце свету? Чаму ў выніку мы былі толькі чатырнаццатымі?**

**ЭЗ:** Насамрэч не ўдалося многае — усяго пакрысе. Да чэмпіянату мы падышлі не ў аптымальным стане. З чым гэта звязана? Мы не зусім правільна сплянавалі заключны этап падрыхтоўкі, бо было шмат пералётаў (Швейцарыя, Германія, Славакія). У гэты перыяд некаторыя хакеісты захварэлі — былі не ў ідэальным стане. Мы дапусцілі некаторыя памылкі ў камплектаванні. Такія гульцы, як Антонаў і Усенка, маглі дапамагчы нам. Цягам турніру былі не самыя ідэальныя звёны. Гэта памылкі трэнерскага штаба.

**«НН»: Ці не выходзяць бокам нацыянальнай зборнай пралікі ў дзіцяча-юнацкім хакеі? Там мы ўжо пачалі прайграваць Даніі, Францыі...**

**ЭЗ:** Гэта рана ці позна павінна было адбіцца. Канечне, нейкі запас у зборнай ёсць. Юнацкі хакей, магчыма, і не стаў горшым, чым раней, але ён саступае ў сваім развіцці камандам, якія правільна займаюцца дзіцяча-юнацкім хакеем, — гэта аб'ектыўны факт.

**«НН»: Дык чаму саступаем? Маленькія заробкі дзіцячых трэнераў?**

**ЭЗ:** Не ўсё залежыць ад заробку. Хаця матэрыяльнае ўзнагароджанне — таксама адзін з асноўных фактараў. Патрэбна, каб адпаведны заробак атрымліваў трэнер адпаведнага ўзроўню. Тады гэта прымусіць нашых спецыялістаў вучыцца, выходзіць на новыя ўзроўні.

### «Мы не пераўзыходзім Данію і Нарвегію»

**«НН»: Адразу пасля чэмпіянату свету рэдактар «Прессбола» выгукнуў: «Мы — хакейныя ідыёты». Маючы такую цудоўную базу, паказваем не самыя высокія вынікі. Што думаеце пра гэта?**

**ЭЗ:** Я не думаю, што гэта тычылася толькі нацыянальнай зборнай. Сапраўды, матэрыяльная база палепшала, але ў той жа час мы не пераўзыходзім такія краіны, як Данія, Нарвегія, у іх болей коўзанак. Тым не менш, мы няправільна размяркоўваем нават тое, што маем, — гэта таксама факт. Пакуль нельга гаварыць, што мы нейкая гіганцкая хакейная дзяржава.

**«НН»: У такім выпадку, можа, варта больш актыўна прыцягваць замежных спецыялістаў?**

**ЭЗ:** Канечне. Той вектар, які ў свой час узяў Навумаў, калі прыязджалі амерыканскія, канадскія спецыялісты, даваў вынік. Зборная ў рэйтынгу з трынаццатага месца паднялася на восьмае. Прыязджалі настаўнікі, якія праводзілі трэніровачныя лагеры для дзяцей, дапамагалі ў фізічнай падрыхтоўцы, коўзанні. Гэта быў нядоўгі перыяд, але ідэя была правільнай. На старым запасе не толькі хакеістаў, але і функцыянераў чакаць руху наперад не выпадае.

### «Хакеісты гулялі за Хэнлана»

**«НН»: У чым быў феномен Глена Хэнлана? Вы яму дапамагалі, можа, ведаеце, у чым сакрэт поспеху?**

**ЭЗ:** Ён грунтаваўся на чалавечых якасцях. Для нашых хакеістаў гэты чалавек уяўляў сабой не проста іхнага трэнера, але і добрага чалавека, які можа знайсці да іх персанальны падыход, зразумець іх, даць ім тое, што ім падабаецца. Хакеісты гулялі за Хэнлана. Плюс да ўсяго, Хэнлан быў трэнерам НХЛ, які па сваіх ведах пераўзыходзіў тых трэнераў, якія працавалі ў Беларусі.

**«НН»: У Хэнлана выходзіла ў Беларусі, але ў Славакіі не выйшла. Чаму?**

**ЭЗ:** Я б не судзіў тут у катэгорыях «выйшла» — «не выйшла». Славакі на гэтым чэмпіянаце не прайгралі нікому больш за адну шайбу. У іх былі вельмі моцныя супернікі. І Фінляндыя (будучыя чэмпіёны), і Расія, і Чэхія. Славакі таксама цяпер ужо не такі грозны супернік, як была раней.

**«НН»: Асабіста Вы многаму навучыліся ў Хэнлана?**

**ЭЗ:** Канечне, Хэнлан зрабіў на мяне вялікі ўплыў, бо я сімпатызаваў яму ў працы. А яшчэ гэта быў мой першы настаўнік у трэнерскім плане. Асноўныя падыходы ў працы я ўзяў у яго.

### «Не было прычын, каб застацца»

**«НН»: Працягнуць працу ў зборнай Вы хацелі?**

**ЭЗ:** Хацець можна многае. Мне падабалася працаваць з камандай. Але пакуль я не бачу прычын, каб мог сказаць: «Я павінен застацца ў зборнай».

**«НН»: Нядаўна прачытаў, што Занкавец вельмі прыстойны настаўнік і праз гэта працу ў Беларусі знайсці не зможа. Што скажаце на гэта?**

**ЭЗ:** *(Смяецца).* Прыемна чуць, што прыстойны. Калі ў мяне не будзе выбару і давядзецца шукаць працу толькі ў Беларусі, то я яе знайду. І неабавязкова гэта будзе праца трэнерская.

**«НН»: Ужо два месяцы не могуць прызначыць Вашага наступніка ў зборнай. Хто б ім мог быць?**

**ЭЗ:** Зборную мог узначаліць любы з маіх асістэнтаў. Яны добрыя спецыялісты. Трэнерам павінен быць чалавек прыстойны, які будзе хварэць за беларускі хакей, а не разглядаць пасаду як месца для зараблення грошай. Ён павінен бачыць прычыны, чаму ўзровень нашага хакея не расце.

### «Навумаў — чалавек дзеяння»

**«НН»: Раскажыце, як Вам працавалася з Навумавым падчас ягонага старшынства ў федэрацыі хакея.**

**ЭЗ:** Ведаеце, нармальна працавалася. Канечне, чалавек ён неадназначны. Вельмі імпульсіўны. Часам ягоныя рашэнні дыктаваліся выключна эмоцыямі. Але ён быў чалавекам дзеяння. У тым выпадку, калі з ім знаходзіліся людзі, што маглі правільна падказаць, то шмат рабілася пазітыўнага.

**«НН»: Цяпер проста многія хакеісты, ды і трэнеры згадваюць часы кіраўніцтва Навумава з нейкай настальгіяй, параўноўваючы з сённяшняй федэрацыяй.**

**ЭЗ:** Тое, што быў рух пры ім, безумоўна. І чэмпіянат нейкі час развіваўся, і зборная падымалася. Сувязі з ім цяпер не падтрымліваю. Мы не сябравалі, проста былі рабочыя адносіны.

### «Вялікія заробкі разбэшчваюць хакеістаў»

**«НН»: Мінскае «Дынама» ў КХЛ — праект удалы ці няўдалы?**

**ЭЗ:** Казаць адназначна, што няўдалы, я не магу. У мінулым сезоне на трыбунах было многа гледачоў. Хаця, магчыма, гэта было звязана не з камандай, а з тым, што ў нас цудоўная арэна. Даведаемся адказ у гэтым сезоне. Аб'ектыўна, што праект «Дынама» не выкарыстоўваецца ў інтарэсах зборнай.

**«НН»: Людзі ходзяць глядзець на зорак «Дынама», пры гэтым наведвальнасць унутранага чэмпіянату катастрафічна падае.**

**ЭЗ:** Падае не толькі наведвальнасць, але і ўзровень чэмпіянату, пасля сыходу «Дынама» і найлепшых хакеістаў у КХЛ. Здаецца, што ўпаў інтарэс функцыянераў да ўнутранага першынства. Тым не менш, не робіцца ніякіх спробаў палепшыць чэмпіянат.

**«НН»: Вялікія заробкі маладых хакеістаў не разбэшчваюць?**

**ЭЗ:** Гэта было пару гадоў таму. Цяпер грошы не такія ўжо і вялікія. Безумоўна, гэта таксама адбіваецца. Я згодзен, гэта разбэшчвае. Калі гулец, якому няма і 20, атрымлівае больш за трэнера, які яго выхаваў, — гэта няправільна. Хакеіст павінен атрымліваць добры заробак пасля таго, як выйдзе на пэўны ўзровень. Тут перакос быў.

**«НН»: За сітуацыяй з «Бэнтлі» Захарава сачылі?**

**ЭЗ:** Чытаў, але гэта не той чалавек, за лёсам якога я сачу. Мала ў чым гэты чалавек для мяне прыклад.

### «Хакею ёсць на што раўняцца»

**«НН»: З кім са зборнікаў найцяжэй працаваць?**

**ЭЗ:** У Беларусі няма распешчаных мегазорак. Нашы зоркі НХЛ браты Касціцыны, Грабоўскі, Салей, у Расіі — Калюжны, Кальцоў — яны ўсе добрыя гульцы і ніколі не адмаўляліся дапамагчы зборнай. Да кожнага патрэбен свой падыход. Нельга ўсім даваць аднолькавыя нагрузкі. Калі трэнер гэта разумее, то праблемаў узнікаць не павінна.

**«НН»: Не былі супраць, калі Ваш сын вырашыў стаць хакеістам?**

**ЭЗ:** Не. Я гуляў у Даніі, калі сын упершыню стаў на канькі. Для сям'і ў той час галоўнай справай было наведванне маіх гульняў, трэніровак. Думаю, у сына іншага выбару не было, калі з пяці гадоў глядзеў, як тата гуляе. Не выступаў і не выступаю супраць ягонай хакейнай кар'еры. У хакеі, апроч каласальных нагрузак, шмат пазітыўнага. І забітыя шайбы, і радасць родных. Ніколі не наракаў на лёс. І пераход у трэнеры мне даўся лёгка.

**«НН»: Хакей у Беларусі стаў нацыянальным відам спорту, мае такую перспектыву?**

**ЭЗ:** Перспектывы ёсць. Гады чатыры таму хакей можна было назваць галоўным відам спорту. Цяпер я так сказаць не магу. Поспехі таго ж футбола аб'ектыўна вышэйшыя. Там моладзь выступае добра. Мы бачым поспехі БАТЭ ў турнірах, якія кацірующа ва ўсім свеце. У нас ёсць паспяховыя баскетбалісткі. Хакею ёсць на што раўняцца. Хаця па выдатках ён, напэўна, народны від спорту. Трэба толькі гэтыя выдаткі размяркоўваць правільней.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

**Эдуард Занкавец**

нарадзіўся ў 1969 у Мінску. Пачынаў кар'еру ў 1986 у складзе мінскага «Дынама», якое гуляла ў першынстве СССР. Пасля распаду Саюза тры гады заставаўся ў складзе «Дынама». Потым гуляў у омскім «Авангардзе», першынствах Германіі, Даніі, Фінляндыі, ніжэйшых лігах Паўночнай Амерыкі. За зборную Беларусі згуляў 50 матчаў, дзе набраў 32 пункты. Удзельнік Алімпіяды-2004, дзе нашы былі чацвёртымі. Дапамагаў Глену Хэнлану ў нацыянальнай зборнай. З 2010 па 2011 — галоўны трэнер зборнай Беларусі.

# Героі маўклівых пратэстаў

Кожны дзень ля турмы на Акрэсціна дзяжураць дзясяткі валанцёраў і сваякоў арыштаваных. Амаль цэлы дзень — з 9.30 да 18.00 — яны стаяць у чэргах, каб перадаць зняволеным перадачы.

Фатографу ўдалося таксама злавіць кадры, калі вязні вызіраюць праз краты з вокнаў турмы.

**Сяргей Гудзілін, фота аўтара.**



Нехта і дагэтуль не ведае, дзе дакладна знаходзяцца ягоныя родныя.



Ранішняя праверка «акрэсцінскіх спісаў».



Ветэран дэмакратычнага руху Валер Шчукін на Акрэсціна.



Чакаць сваёй чаргі сяму-таму даводзіцца паўдня.



Афармленне перадачы.



Кожны дзень ля муроў Акрэсціна дзяжурыць некалькі дзясяткаў чалавек.



Людзі падвозяць прадукты і напоі для арыштаваных.

# Сярод арыштаваных «маўчуноў» — баец без правілаў

Раман Міраненка па мянушцы «Хірург» асуджаны на 10 сутак.

Сярод затрыманых падчас разгону маўклівай акцыі ў Мінску 3 ліпеня апынуўся знакаміты баец Раман Міраненка. Яго апазналі па фотаздымках з ізалятара на Акрэсціна чытачы «НН». Раман трапіў у кадр фатографа праз фортку камеры. Мужчына з накачаным целам і мноствам тату на ім.

Пасля ў рэдакцыю даслаў ліст сукамернік Рамана. Ён пацвердзіў, што гэта сапраўды Міраненка і што ў турме яго наведваў украінскі консул. Дарэчы, Раман жыве непадалёк ад чыгуначнага вакзала. І амаль штодня вяртаецца праз Прывакзальную плошчу з трэніровак.

Тэрмін арышту Рамана скончаецца 13 ліпеня.

Раман Міраненка нарадзіўся ў горадзе Украінка каля Кіева. У Беларусі пазнаёміўся з будучай жонкай, сюды і пераехаў жыць. Летась нечакана для многіх заваяваў пояс чэмпіёна па змешаных адзінаборствах (баях без правілаў) «М-1 Селекш Беларусь» у вагавай катэгорыі да 84 кг. Але занятак такім відам спорту не прафесійны, а на аматарскім узроўні. На жыццё зарабляе іншым спосабам — як менеджар па продажы кандыцыянераў.

Да прыезду ў Беларусь Раман займаўся акадэмічным веславаннем. З дзяцінства хацеў займацца барацьбой, але мама забараняла. Урэшце, у старшых класах, ён паставіў яе перад фактам, пайшоў на вольную барацьбу, стаў кандыдатам у майстры спорту.

А ў Беларусі сябры прапанавалі яму паспрабаваць сілы ў баях без правілаў. Першым трэнiравaў яго слаўны Віталь Гуркоў, чэмпіён свету па муай тай. Ён і паставіў Раману ўдар. У коле спартоўцаў пра яго толькі станоўчыя водгукі — як пра добрага чалавека.

У адным з інтэрв'ю на пытанне, з чаго пачынаць, каб стаць чэмпіёнам, ён адказвае: «З сябе. Выбраць мэту і ісці да яе. Рабіць па-чорнаму ў зале.У спорце ўсё вельмі проста: хто больш працуе, той і перамагае. Потам і крывёю».

**Сяргей Макарэвіч**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Асуджаны анархіст: пасля Валадаркі ў калоніі рай

Мікалай Дзядок адбывае пакаранне ў Магілёве.

Як паведаміла дзяўчына Дзядка Лера, Мікалай знаходзіцца цяпер у каранціне. Разам з ім там сядзіць іншы асуджаны анархіст — Яўген Васьковіч з Бабруйска.

«У знаходжанні тут (у калоніі) у параўнанні з турмой ёсць шэраг плюсаў і мінусаў, — напісаў Мікалай у лісце. — Але плюсаў усё-ткі больш, і асноўны ў тым, што я пастаянна знаходжуся на свежым паветры. З непрывычкі першы дзень расколвалася галава. Кормяць тут добра. У кашы ўвесь час трапляецца мяса. Ды ў параўнанні з Валадаркай тут усё смачнае. Учора нам паказвалі па dvd прапагандысцкі фільм пра ПК-15, кшталту «адзін дзень з жыцця зняволенага». Дык настолькі крута ўсё распісалі, што я ўжо сумняюся, ці захочацца мне вызваліцца».

Дзядок напісаў, што падчас этапу ён ехаў разам з экс-кандыдатам у прэзідэнты Мікалаем Статкевічам. Размаўлялі.

Лера паведаміла, што рэгулярна атрымлівае лісты ад Мікалая. Але яе допісы да маладога чалавека не даходзяць.

Мікалай Дзядок быў асуджаны на чатыры гады і шэсць месяцаў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Ён абвінавачваўся ў арганізацыі антымілітарысцкага шэсця пад Генеральным штабам, нападзе на шэраг будынкаў з групай анархістаў. Праваабаронцы прызналі яго палітвязнем.



Па адной справе з Дзядком былі асуджаныя і Ігар Аліневіч (8 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй аўтамабіля), Аляксандр Францкевіч (3 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму), Максім Веткін (4 гады абмежавання волі з накіраваннем ва ўстанову адкрытага тыпу) і Яўген Сілівончык (1,5 года абмежавання волі з накіраваннем ва ўстанову адкрытага тыпу).

Напісаць Мікалаю Дзядку можна на адрас: 213105 г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна, папраўчая калонія № 15.

* * *

Прысуд анархістам пакінулі без зменаў. Такое рашэнне Мінскага гарадскога суда.

Касацыйную скаргу падавалі Мікалай Дзядок, Ігар Аліневіч і Аляксандр Францкевіч. Цяпер яны будуць звяртацца ў вышэйшую інстанцыю. На судзе маладыя людзі сваёй віны не прызналі. Максім Веткін і Яўген Сілівончык, якія вінаватымі сябе лічаць часткова, рашэнне суда не абскарджвалі.

**Сяргей Макарэвіч**

## Алесь Кіркевіч. Лунае дзень,як сцяг

Лунае дзень, як сцяг,
Блакіт празрысты,
І не адбудзецца працяг —
Не спаліць лісця.
Агонь і попел скроняў не кранyць,
А розум застанецца чыстым,
Усё паўторыцца ізноў,
Усё карысна.

Алесю можна ліставаць на адрас: 211440 Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8, папраўчая калонія № 10. Кіркевічу Аляксандру Раманавічу.

# Жарты Статкевіча: па яго пашпарце невыязныя паедуць у Ніцу

Палітвязень тэлефанаваў сваёй жонцы Марыне Адамовіч са шклоўскай калоніі. Асуджаны палітык паведаміў, што яго перавялі ў атрад №3. Ён сказаў, што важна пазначаць гэта ў лістах. Мікола знаходзіцца ў атрадзе, дзе раней сядзеў палітвязень Зміцер Дашкевіч. Змітра там памятаюць.

Дагэтуль няма ведама, што стала з пашпартам Статкевіча. Яго знікненне выявілася 27 чэрвеня, калі Марына Адамовіч паехала ў калонію да мужа. У судзе кажуць, што дакумент з матэрыяламі справы да іх не трапляў. Між тым у КДБ сцвярджаюць, што пашпарт у суд перадаваўся.

Пашпарт не згубілі, іранізуе Статкевіч. У ім стаіць яшчэ дзейная віза ў краіны Шэнгена. Ён пажартаваў, што неўязныя чыноўнікі хочуць скарыстацца магчымасцю, каб выехаць на адпачынак у Ніцу. І дадаў, што жанчынам з таго спісу няцяжка замаскіравацца пад яго.

**КМ**

# Зміцер Бандарэнка шпіталізаваны



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Як паведаміла жонка палітвязня Вольга, у мужа праблемы з міжпазваночнай грыжай. У лістах Зміцер напісаў, што ў шпіталі болі крыху паменшалі, але яму даводзіцца часта ляжаць пад кропельніцамі. У дадатак грыжа пачала заціскаць нервы з левага боку (да гэтага толькі з правага). Падчас апошняй сустрэчы Вольгі з мужам у яго амаль не рухалася нага. Ёсць верагоднасць паралюшу абедзвюх ног. Зміцер сур'ёзна задумаўся пра аперацыю, абысціся без якой меркаваў раней. Пакуль дамоўлена пра кансультацыю ў нейрахірурга. А што будзе далей, жанчына не ведае.

Вольга Бандарэнка адзначыла, што пасля ліста дэпутата Еўрапарламента Марка Мігальскага і Аляксандра Мілінкевіча адміністрацыі калоніі вязням выдалі новую вопратку. Нават фатаграфавалі для нейкага выдання. Яна не ведае, простае гэта супадзенне ці не.

Зміцер Бандарэнка, даверaная асоба экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава, быў асуджаны на два гады калоніі за ўдзел у акцыі пратэсту 19 снежня 2010 года.

**Кастусь Матушыч**

Напісаць ліст Бандарэнку можна на адрас: 213105 г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна папраўчая калонія № 15.

## Сціслa

• **Дзмітрый Ус прайшоў абследаванне.** Дзмітрыя Уса пераводзілі з магілёўскай калоніі ў СІЗА №1 у Мінск для абследавання, каб пацвердзіць інваліднасць. Вядома, што 5 ліпеня яго прывозілі ў 6-ю клінічную паліклініку. На гэтым тыдні экс-кандыдата ў прэзідэнты павінны перавесці назад у калонію.

**Напісаць ліст Усу** можна на адрас: 213105 г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна, папраўчая калонія № 19.

• **Алег Гнедчык не атрымлівае лістоў.** Як паведаміла маці палітвязня, сын у калоніі не атрымаў ніводнага ліста, хаця жанчына піша яму рэгулярна. Такая акалічнасць высветлілася падчас іх тэлефоннай размовы.

**Напісаць ліст Алегу Гнедчыку** можна на адрас: 213004 Магілёўская вобл., г.Шклоў, папраўчая калонія № 17.

• **Някляева, Халіп і Радзіну прынялі ў Новазеландскае таварыства аўтараў.** Новазеландскае таварыства такім чынам салідарызуецца са зняволенымі аўтарамі па ўсім свеце.

• **Дашкевічу за кратамі спаўняецца 30 гадоў.** 20 ліпеня ў палітвязня дзень нараджэння. Стала вядома, што ўвосені ў турме Дашкевіч мае ажаніцца з Настай Палажанкай.

Напісаць Змітру Дашкевічу можна на адрас: 213410, Магілёўская вобл., г. Горкі, вул. Дабралюбава, 16. Папраўчая калонія №9.

**КМ**

# Што за рэзідэнцыя будуецца на беразе Мінскага мора?

**Насупраць урадавай рэзідэнцыі «Заслаўе» будуецца загадкавы жылы комплекс.**

Першы раз да тэмы ўрадавых рэзідэнцый «Наша Ніва» звярнулася год таму. У артыкуле «Дзе жыве Лукашэнка?» мы налічылі з дзясятак «ставак» выканаўчай улады, раскіданых па ўсёй краіне. Яшчэ адну, адзінаццатую, павінен быў пабудаваць на тэрыторыі Белавежскай пушчы Юрый Чыж са сваёй кампаніяй «Трайпл».

Прайшоў год. Мінулі прэзідэнцкія выбары, Беларусь трапіла ў эканамічны крызіс, а рэзідэнцыі тым часам... пачалі множыцца. Не паспела насельніцтва абмеркаваць увядзенне яшчэ аднаго будынка для высокапастаўленых наведнікаў (між іншым, дванаццатага) на Браслаўскіх азёрах, як высветлілася, што на падыходзе і чарговая будоўля! Падрыхтоўчыя працы распачаліся ў сталіцы на ўчастку паміж вуліцай Арлоўскай і праспектам Пераможцаў.

А тыдзень таму чытач з Мінскага раёна даслаў інфармацыю з-над Мінскага мора:

«У нас штосьці будуецца. Усе кажуць, што гэта новыя Дразды. Невялікі такі спальны раён з 5 домікаў. Тры вялікія будынкі. І дзве меншыя хаткі. А таксама цяпліца, сховішча для гародніны, лазня агульная з вялікім басейнам + лазня меншая. Таксама будаўнікі расказваюць, што будуецца фізкультурна-аздараўляльны комплекс, некалькі штук барбекю, некалькі гаражоў, хаткі аховы. Ну і драбніцы: помпавая, ачышчальная, вальеры для сабак, фантаны, электрападстанцыя, генератар, трохметровы плот... Знаходзіцца ўсё гэта на процілеглым беразе Мінскага мора насупраць урадавай рэзідэнцыі».

Інфармацыя падалася нам цікавай.

...Траса ў лесе каля Мінскага мора, за пару кіламетраў да рэзідэнцыі «Заслаўе-1». Направа — указальнік да рэабілітацыйнага цэнтра для ветэранаў вайны, налева — непазначаная дарога. Праскокваем скрыжаванне, як раптам задумваемся, можа, праверыць левы паварот? Вяртаемся і едзем па лясной, але заасфальтаванай дарозе.

Праз кіламетр-два па правым баку бачым агароджу нейкай будоўлі. На пашпарце аб’екта ўказана, што тут узводзіцца «Жылы комплекс «Усход». Замоўца — СААТ «Усход-Буд».

Працы пачаліся 18 сакавіка 2009 года (указаны нават дзень!) і мусілі скончыцца ў снежні 2009 года. Пакуль фатаграфуем пашпарт, вароты ад’язджаюць убок і насустрач выходзіць ахоўнік. Ён неагрэсіўна, але настойліва адмаўляецца адказваць на пытанні любога кшталту. «Кажуць, тут паблізу рэзідэнцыя будуецца?» — «З’ездзіце ў «Дразды» і спытайце». — «А тут будаўніцтва ўжо скончылася?» — «Званіце забудоўшчыку». Разумеем, што нічога ўцямнага ахоўнік не скажа, і адпраўляемся далей. Вакол варотаў — некалькі трактароў і дзясяткі бытовак для рабочых. Значыцца, будаўніцтва працягваецца.

Неўзабаве яшчэ адно разгалінаванне. Як высветлілася пасля, дарога вядзе проста да пляжа, на які ўслед за намі праскоквае прадстаўнічы чорны «Мерсэдэс» з элітным нумарам «8000-ХХ7». А вось направа — свежапакладзены асфальт. Наперадзе да дрэва прыбітая рукапісная таблічка «УЕЗД ТОЛЬКІ ГРУЗАВЫМ». Ігнаруем яе і праз пару сотняў метраў упіраемся ў чарговыя вароты. Тут ахоўнік яшчэ больш негаваркі. Адзінае, што даведаемся, — гэта другі пад’езд да таго самага жылога комплекса «Усход».

Пакруціўшыся вакол узбярэжжа, так і не знаходзім ніводнага падазронага месца. А вось вярнуўшыся ў Мінск, пачынаем шукаць, што за загадкавы комплекс «Усход».

Як высветлілася, кампанія-забудоўшчык не мае не тое што ніводнага пабудаванага аб’екта, але і нават уласнага сайта ў інтэрнэце. І такой кампаніі дазваляюць будавацца за пару сотняў метраў ад кіраўніка дзяржавы?!







Рэндар жылога комплексу.

Адзіны ўказаны на пашпарце аб’екта тэлефонны нумар «Усход-Буда» ўвесь час працуе ў рэжыме факса.

Загадак шмат — напрыклад, нідзе і ніколі катэджы ў элітным комплексе не выстаўляліся на продаж і не рэкламаваліся.

Адзіную інфармацыю пра «Усход» удалося знайсці на сайце кампаніі «СТС-клімат», якая называе сябе генеральным праектавальнікам:

«Мы з’яўляемся генеральным праектавальнікам жылога комплексу катэджнага тыпу сумарнай плошчай каля 12 000 м.

Апроч распрацоўкі ўсіх частак праектнай дакументацыі, мы таксама ажыццяўляем мантаж сістэм ацяплення, вентыляцыі, кандыцыянавання, цеплазабеспячэння, аўтаматыкі, дыспетчарызацыі, водазабеспячэння і каналізацыі. На гэтым аб’екце мы таксама ажыццяўляем поўны комплекс працаў па будове кацельняў і топак.

Акрамя гэтага, мы выканалі пастаўку на гэты аб’ект абсталявання для сістэм атаплення, вентыляцыі, кандыцыянавання і кацельнага абсталявання, сярод якога: катлы Viessmann, вентустаноўкі VBW і DOSPEL, VRV-сістэмы Sanyo».

На спадарожнікавай мапе ад Google Maps бачна, што месца будаўніцтва знаходзіцца насамрэч насупраць ужо існуючай рэзідэнцыі, у адной з затокаў Мінскага мора.

Падыходзіць пад апісанне чытача «Нашай Нівы» і выгляд комплексу — некалькі катэджаў з чырвоным дахам.

Чытач пісаў нам яшчэ пра сувязь будоўлі з «Ітэрай», але нам адсачыць гэтага не ўдалося.

Назваць са 100%-й гарантыяй жылы комплекс «Усход» чарговай урадавай рэзідэнцыяй пакуль што нельга, але месца размяшчэння (насупраць існуючай рэзідэнцыі), рэжым аб’екта (ахова, вароты і трохметровы плот) і поўная адсутнасць інфармацыі пра продаж катэджаў як мінімум даюць падставы думаць, што інфармацыя, дасланая чытачом, праўдзівая. Застаецца даведацца, хто з дзяржаўных чыноўнікаў будзе выкарыстоўваць жылы комплекс на тры сям’і.

**Віталь Несцераў**



На заднім плане — загадкавыя катэджы.



Від са спадарожніка.

# «Штодзень рабочыя сядзяць на смецці і папіваюць піва»

Жыхар Маладзечна напісаў, як адбываецца падрыхтоўка да «Дажынак» у асобна ўзятым доме.

У рэдакцыю «НН» звярнуўся жыхар Маладзечна, дзе сёлета будуць святкаваць «Дажынкі». Ён паскардзіўся на тое, якім чынам адбываецца рамонт аднаго з дамоў. Да ліста ён прыклаў некалькі дзясяткаў фота. Па яго словах, рамонт цягнецца не адзін месяц. З пашпарта аб’екта вынікае, што рамонт мусіў пачацца ў лютым і праз месяц скончыцца.



«Дом нумар 54 па вуліцы Вялікі Гасцінец рамантуюць ужо 4-ы месяц. Пакуль яго жыхары атрымліваюць толькі страты. Кожны, нават невялікі дождж выклікае патоп на 2-х паверхах», — піша ён. Вось як, па яго словах, выглядае працоўны дзень рамонтнікаў: «Кожны дзень, у любы час дня, выходзячы з дому, я назіраю толькі, як рабочыя сядзяць на раскладзеным каля дома смецці і папіваюць піва».

Жыхар дома скардзіцца, што іх двор больш падобны да велізарнай звалкі, дзе валяецца ўсё — ад жалеззя да старога шыферу.

Далей ён пералічвае страты, якія панеслі жыхары дома ў часе рамонту. У выніку таго, што рабочыя падпіралі ўваходныя дзверы і не выключалі пры гэтым дамафон, апошні сапсаваўся. А набывалі яго жыхары на ўласныя сродкі.

Пасля моцнага дажджу на трэцім паверсе заліло тры кватэры. Адна з затопленых кватэр у сваю чаргу падтапіла жытло паверхам ніжэй. Акрамя таго, вадой заліло пад’езд, які жыхары дома рамантавалі таксама самастойна.

Абураны мужчына задаецца пытаннем, хто будзе кампенсаваць нанесеную шкоду.

У інфармацыйным аддзеле будаўнічай фірмы «Сервіс Тэк Кампанія» (Магілёў), якая займаецца рамонтам дома №54, карэспандэнту «НН» спачатку параілі патэлефанаваць праз гадзіну, каб пачуць каментар дырэктара. Праз гадзіну адказалі, што кіраўніцтва, на жаль, адсутнічае. І дадалі, што, па іх звестках, на азначаным аб’екце ў Маладзечне ў кампаніі ніякіх сур’ёзных праблем не зафіксавана. Мы перадалі прэтэнзіі жыхароў дома ў Маладзечне кіраўніцтву «Сервіс Тэк Кампаніі».



**Сямён Печанко**

# У Віцебску перад канцэртам Лявонцьева наляцеў ураган і праваліліся зямля

9 ліпеня вялікі правал утварыўся на вуліцы Леніна ў Віцебску пасля ўрагану, які пачаўся перад канцэртам Валерыя Лявонцьева на «Славянскім базары». Вецер дасягнуў ураганнай сілы, і на хвіліну ўвесь Летні амфітэатр ператварыўся ў вялізны душ Шарко.

Праз дождж канцэрт Валерыя Лявонцьева пачаўся з 35-хвілінным спазненнем.

Патокі дажджавой вады выклікалі правал зямлі на вуліцы Леніна, побач са знакамітым «сінім домам» і пірамідай «Марка». Тут, якраз насупраць месца, дзе пачалі пракладаць новы падземны пераход, побач з каналізацыйным люкам утварылася яма дыяметрам і глыбінёй каля 1,5 метра.

**Народныя навіны Віцебска**



NEWSVITEBSK.CC




NEWSVITEBSK.CC



NEWSVITEBSK.CC

## Расіяне масава скупляюць тавары ў крамах Гомеля

Яны бяруць муку, мяса й малако.

Жыхары Бранскай вобласці масава скупляюць беларускія тавары ў Гомелі. Напрыклад, 9 ліпеня на аўтастаянцы каля гіпермаркета «Лінія» амаль палова аўтамабіляў была з нумарамі 32-га рэгіёна Расіі — Бранскай вобласці. Прыязджаюць у Гомель па прадукты з Навазыбкава, Клінцоў, Бранска. «Усё купляем, бо ў вас танней: курс абмену для нас выгадны. Бяром муку, малако й мяса», — сказаў адзін з такіх чаўнакоў.

Вывозіць прадукцыю расіянам можна без абмежаванняў — на мяжы няма мытнага кантролю. Паводле афіцыйных звестак, абнародаваных на пленарнай нарадзе ў Гомельскім аблвыканкаме, расіяне скупляюць у гомельскіх крамах да 10% прадуктаў.

**Паводле БелаПА**

## Прайшло тры месяцы з часу тэракту ў метро

Выбух прагрымеў у панядзелак, 11 красавіка, прыкладна ў 17:55, на станцыі метро «Кастрычніцкая». Загінулі і потым памерлі ад ран 15 чалавек, больш за 200 былі шпіталізаваныя.

Меркаваныя тэрарысты былі затрыманыя беларускімі спецслужбамі праз суткі пасля выбуху. Следства пакуль іх прозвішчаў не называе.

Ля ўваходу на станцыю «Кастрычніцкая» ўсталяваная часовая мемарыяльная шыльда.

**АГ**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## «Світанак» будзе шыць для Adidas

Сярод іншых кліентаў кампаніі — Valentino і MEXX.

Паводле словаў дырэктаркі прадпрыемства Ларысы Кузняцовай, перш чым даручыць выкананне сваіх замоваў аршанскім швачкам, замежныя партнёры правялі аўдыт прадпрыемства і сур’ёзна праверылі яго абсталяванне, кваліфікацыю персаналу і нават вывучылі забяспечанне сацыяльных гарантый калектыву.

**Паводле БелТА**

# Застанемся без штаноў?

**Мясніковіч: Беларусь вядзе перамовы аб продажы Расіі сямі найбуйнейшых прадпрыемстваў.**

Тое, што старанна хаваецца ўнутры краіны, Міхаіл Мясніковіч агучыў у Маскве. Урад Беларусі вядзе з расійскімі інвестарамі перамовы аб продажы сямі буйных дзяржкампаній. Ён агучыў спіс у кулуарах беларуска-расійска-казахскай канферэнцыі.

Паводле яго слоў, абмяркоўваецца купля «Гродна Азота» «СІБУРам» і «Раснафтай», «Нафтана» — «ЛУКОЙЛам», «Белтрансгаза» — «Газпрамам», Мазырскага нафтазавода — «Раснафтай», дзяржчасткі беларускага МТС — «спадаром Еўтушэнкавым», МАЗа — «Расейскімі машынамі» і «Растэхналогіямі», «Інтэграла» — «Растэхналогіямі».

«Перамовы маглі б быць больш дынамічнымі», — сказаў ён, адказваючы на пытанне аб тым, наколькі актыўна вядуцца перамовы.

На пытанне, ці абмяркоўваецца купля «Уралкаліем» «Беларуськалія», Мясніковіч адказаў: «Пакуль у іх прапанова не сфармулявана. Я не ведаю, можа, яны не хочуць».

Гаворачы аб прагрэсе ў пытанні прыватызацыі «МАЗа» «КАМАЗам», М. Мясніковіч паведаміў, што была абраная кампанія-ацэншчык, і ацэнка «МАЗа» была праведзена. «Гэта трэба спытаць у спадара Чэмезава, чаму ён тры месяцы выбіраў кампанію, якая будзе ажыццяўляць ацэнку», — сказаў беларускі прэм'ер, каментуючы зацяжку тэрмінаў перамоў.

Асобна Мясніковіч прызнаў, што ў выпадку «Белтрансгаза» — «гэта ўпершыню ў гісторыі Еўропы, калі суверэнная дзяржава адмаўляецца ад газатранспартнай сістэмы на карысць партнёра па Мытным саюзе».

Паводле яго слоў, у аўторак пытанні формулы цаны на газ для Беларусі і прыватызацыі «Белтрансгаза» абмяркоўваліся на сустрэчы з прэм'ерам РФ Уладзімірам Пуціным. «Я думаю, што будзе разумны кампраміс», — сказаў Мясніковіч.

Ягоныя словы цытуюць інфармацыйныя агенцтвы.

Прыватызацыя беларускіх актываў была адной з умоваў выдачы Беларусі антыкрызіснага крэдыту ЕўрАзЭС. Дагэтуль Беларусь застаецца краінай з найвялікшай доляй дзяржаўнай уласнасці. Аднак прыватызацыя найважнейшых прадпрыемстваў капіталам Расіі можа прывесці да ўзмацнення залежнасці — і без таго татальнай.

**Мікола Бугай**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Помнік шапаголікам з'явіўся ў Мінску

**І не абы-дзе, а каля абноўленага ЦУМа.**

Новая бронзавая скульптурная кампазіцыя аўтарства нястомнага Уладзіміра Жбанава з'явілася ў Мінску. Гэтым разам яна ўвекавечвае адну з праяваў, ці, калі хочаце, заганаў, сучаснага грамадства — шапагалізм. Шапагалізм, ці па-навуковаму аніяманія, азначае прагу набывання без развагі і практычнай патрэбы. Скульптар Жбанаў, каб апісаць з'яву з дапамогай бронзы, выкарыстаў вобраз сям'і: дзеці — хлопчык і дзяўчынка — углядаюцца ў вітрыну гандлёвага кіёска, іх бацькі стаяць побач, бацька, пераможаны неабходнасцю непазбежных выдаткаў, цягнецца ў кішэню па грошы.

Скульптуры Уладзіміра Жбанава абжылі вуліцы сталіцы. Дзяўчынка з дзіравым парасонам у Міхайлаўскім скверы, мужчына з цыгарэтай (гэты элемент змяняецца дзякуючы клопату арміі прыхільнікаў скульптуры), фатограф, які здымае даму з сабачкам, і некаторыя іншыя.

**Сямён Печанко**

# Беларусь выслала двух украінскіх дыпламатаў

**Паміж Беларуссю і Украінай разгарэўся дыпламатычны скандал.**

Яшчэ месяц таму з Беларусі былі высланыя два супрацоўнікі пасольства Украіны ў Беларусі — вайсковыя аташэ. Пра гэта даведалася ўкраінская газета «Дзеркало тижня».

Украіна прыняла рашэнне ў адказ, выслаўшы вайсковага аташэ пасольства Беларусі ў Кіеве Андрэя Каюка.

У канцы красавіка Аляксандр Лукашэнка абвінаваціў кіраўніцтва Украіны ў «вашывасці». Як паведамілі крыніцы «Дзеркала тижня», украінскі прэзідэнт Віктар Януковіч вырашыў перадаць свой адказ праз прэм'ера Міколу Азарава, які 19 мая знаходзіўся з візітам у Мінску. Сутнасць адказу невядомая. Але ён выклікаў негатыўную рэакцыю беларускага кіраўніка і прывёў да высылкі ўкраінскіх дыпламатаў.

**Сяргей Гезгала**

# Някляеву — 65

**Свой дзень народзінаў паэт і палітык адзначыў 9 ліпеня.**



Юбілей ён адзначаў у коле самых блізкіх родных і сяброў.

Вырас паэт у мястэчку Крэва каля Смаргоні. Быў кандыдатам у прэзідэнты ў 2010 годзе. У дзень выбараў яго збілі так, што ён яшчэ доўгія месяцы хадзіў з сінякамі пад вачыма.

Многая лета паэту і грамадзяніну.



# Вычварэнец застаўся беспакараным, памірыўся з пацярпелай

**Неймаверны выпадак здарыўся на станцыі «Фрунзенская».**

У Мінску 27-гадоваму вычварэнцу ўдалося пазбегнуць крымінальнай адказнасці дзякуючы прымірэнню з пацярпелай. Як расказалі ў пракуратуры, інцыдэнт адбыўся раніцай 24 лютага ў перапоўненым электрацягніку метро на пад'ездзе да станцыі «Фрунзенская».

Паводле прызнання маладога чалавека, у гушчы людзей, апынуўшыся прыціснутым да дзяўчыны, што стаяла побач, ён узбудзіўся, дастаў член і дакрануўся ім да рукі выпадковай спадарожніцы. Тая падняла крык, і на станцыі вычварэнец пакінуў вагон.

Аддзелам дазнання Маскоўскага РУУС маладому чалавеку — ён жанаты і выхоўвае сына — было выстаўлена абвінавачванне ў хуліганстве. Сваімі дзеяннямі ён прынізіў чалавечую годнасць пацярпелай, гаварылася ў абвінаваўчым заключэнні. Матэрыялы справы былі перададзеныя ў пракуратуру для накіравання ў суд. Аднак затым справу спынілі на падставе заявы пацярпелай, з якой мінчук з ненармальнымі сэксуальнымі фантазіямі памірыўся і кампенсаваў ёй маральную шкоду. Пра памер адплатнага ў пракуратуры маўчаць.

**Паводле БелаПАН**

# «Таксіст» Самі Насэры трапіў у псіхбальніцу

**Спачатку яго пасадзілі ў турму за неадэкватныя ўчынкі, а там ён спрабаваў перарэзаць сабе горла.**



Самі Насэры стаў вядомы пасля ролі таксіста ў культавых прыгодніцкіх камедыях Люка Бэсона «Таксі». Там ён іграў самародка-кіроўцу.

Слава і грошы закружылі акцёру галаву. Яго не раз затрымлівалі за рулём нецвярозым. Аднойчы па п'яні ён нават збіў паліцыянтку. Яго арыштоўвалі таксама за дэфіляванне аголеным па набярэжнай у Канах — таксама п'яным.

Нарэшце яго пасадзілі ў турму на 16 месяцаў за напад на чалавека з нажом. Але псіхоз працягваўся і за кратамі. 50-гадовы французскі акцёр зрабіў спробу перарэзаць сабе горла. Гэта здарылася ў турме горада Грас, што на поўдні Праванса.

Насэры ўратавалі. Зараз яму давядзецца прайсці курс лекавання ў адной з псіханеўралагічных клінік.

**СГ**

# Школа стрыптызу

Эратычныя танцы выходзяць за межы начных клубаў і робяцца фітнэсам для соцень беларусак. Фотарэпартаж **Сяргея Гудзіліна.**



З пачатку 2000-х у Беларусі ў прыватных школах танцаў пачалі адкрывацца групы эратычнага танцу, стрыптызу, стрып-дэнсу і стрып-пластыкі. Такія курсы для аматараў у большай ступені распаўсюджаныя ў славянскіх краінах. На Захадзе гэтым займаюцца толькі прафесіяналы — танцоркі з начных клубаў і кабарэ. Заняткі там ідуць удзень, калі няма наведнікаў.

Наведніцы групы стрып-дэнсу школы танцаў Queens пагадзіліся на прысутнасць фатографа падчас сваіх заняткаў. У групе шэсць дзяўчат. Яны не прафесійныя танцоркі стрыптызу. Узрост — ад 18 да 30, хаця бываюць такія, што займаюцца і пасля 40. Чаму менавіта стрыптыз? Нехта вучыцца танцаваць для свайго каханага, хтосьці хоча скарэктаваць фігуру, а для некага проста фітнэс — гэта сумна. Падчас танцу на жэрдцы працуюць усе групы мышцаў — гэта дапамагае мець атлетычнае і прыгожае цела. Увогуле стрыптыз — танец для вельмі скаардынаваных людзей з добрай расцяжкай.

Групай кіруе інструктар Вольга. У пачатку заняткаў усё як у звычайным фітнэсе — размінка і расцяжка. Пасля гэтага, пад музыку, наведніцы адпрацоўваюць элементы эратычнага танцу. Прафесійная вопратка на занятках стрыптызам — абутак на высокіх абцасах і зручнае адзенне для фітнэсу, некаторыя дэталі якога пасуюць і да эратычнага танцу.

У школах танцаў, што вучаць сталічных жанчынаў стрыптызу, існуе некалькі ўзроўневых груп. Заняткі праходзяць з інструктарамі ў групах па 5-7 чалавек — так прасцей сачыць за «адукацыйным працэсам». Для танцаў выкарыстоўваюцца звычайныя памяшканні, як у дзясятках фітнэс-клубаў. Толькі ў іх абавязкова мусіць быць жэрдка. Яе прафесійнае найменне — пілон. Пілоны адрозніваюцца дыяметрам — больш тонкія для прафесійных танцорак, таўсцейшыя — для аматарак.

Тым часам заняткі ў групе падыходзяць да танцаў на пілоне. Дзяўчаты ў групе, якая мне трапілася, вельмі спрактыкаваныя і не саромеюцца дэманстраваць сваё майстэрства. На пытанне, ці не жадаюць яны перайсці з «аматарскай» катэгорыі ў прафесійную, кажуць, што гэта занятак для сябе — стыль жыцця. Дарэчы, прыгожы стыль.

**Стрыптыз**

(англ. strip — раздзявацца і tease — дражніць) — эратычныя танцы, мастацтва выяўлення сэксуальнасці ў танцы. Першы ў свеце стрыптыз быў паказаны 9 лютага 1893 года ў знакамітым кабарэ Мулен Руж, падчас вечарыны, зладжанай парыжскімі студэнтамі. На сцэну выйшла жанчына пад сцэнічным імем Мона і раздзелася. За гэта яе аштрафавалі на 100 франкаў. Стрыптыз можа быць як мужчынскі так і жаночы, таксама існуе і антыстрыптыз — калі жанчына павольна апранаецца пад музыку. Акрамя гэтага ёсць некалькі відаў эратычных танцаў, блізкіх да стрыптызу, у культурах розных народаў.



**Інструктар групы Вольга дэманструе элементы самага эратычнага танцу.**



**Перад заняткамі дзяўчаты пераапранаюцца ў «прафесійнае адзенне».**



**Добрая расцяжка ў стрыптызе вельмі неабходная.**



**Парны танец на пілоне.**



**Кароткі тайм-аўт.**

# Юбілей Вялікай рэформы

Сёлета — 150 гадоў скасавання прыгоннага права. Піша **Алег Дзярновіч.**

### Спадчына Залатой эпохі

Прыгон застаўся нам у спадчыну ад «Залатога веку» Вялікага Княства Літоўскага. У свой час прыгон быў прагрэсіўнай з'явай: ён змяніў рабства.

Цэны на аграрную прадукцыю ў краінах Заходняй Еўропы, дзе бурліва развіваліся рамяство і мануфактурная вытворчасць, хутка раслі, і сельская гаспадарка ВКЛ стала працаваць на замежныя рынкі. Магчымасць выгаднага збыту сельгаспрадукцыі стымулявала шляхту падвышаць прадукцыйнасць маёнткаў і нормы працы сялянства на шляхецкай зямлі. Але ж традыцыйныя нормы павіннасцяў і правілы свабоднага пераходу сялян перашкаджалі. Вось тут на арэне сацыяльных адносін і з'яўляецца прыгон. Юрыдычнае прымацаванне сялян да зямлі стала галоўным сродкам прымусу да ўсё большай працаглыбіні працы на землеўласніка.

Пашырэння прыгону на нашых землях, а таксама ў Польшчы, Усходняй Аўстрыі, Паўночна-Усходняй Германіі адбывалася ў той час, як у шырокай паласе ад Заходняй Германіі да Англіі прыгоннае права знікала зусім. Гэта была наша плата за перыферыйнае становішча ў свеце, дзе зараджаўся капіталізм.

Адліканне заканадаўчага афармлення прыгону ў ВКЛ вядзецца ад вялікакняскага Прывілея 1447 г. А закончаны гэты працэс славутым помнікам кадыфікацыі права — Статутам 1588 г.

Але запрыгоненне і Вялікая аграрная рэформа Жыгімонта Аўгуста («Валочная памера») мелі той станоўчы вынік, што зліквідавалі рабства, якое дасталося ВКЛ яшчэ ад часоў Кіеўскай Русі. Рабы («чэлядзь нявольная») былі пасаджаны на зямлю і сталі прыгоннымі.

У Расіі, на той час больш сацыяльна адсталай краіне, юрыдычнае афармленне прыгону пачалося пазней і закончылася ў 1649 г. Саборным улажэннем цара Аляксея Міхайлавіча. Пік жа прыгонніцтва прыпаў на перыяд вестэрнізацыі — рэформы ажыццяўляліся абсалютысцкай дзяржавай з выкарыстаннем прымусовых, пазаэканамічных метадаў мабілізацыі грамадства.

Прававыя паўнамоцтвы расійскага дваранства былі неверагодныя — у 1765 г. памешчыкі атрымалі права ссылаць сваіх сялянаў на катаргу. Адначасова сялянам было строга забаронена падаваць «чалабітныя» на сваіх памешчыкаў.

### «Сялянская рэспубліка» Бжастоўскага

У Рэчы Паспалітай існавала разуменне, што прыгон перашкаджае развіццю. Але абмежаваныя паўнамоцтвы цэнтральнай улады — караля — не дазвалялі ёй замахнуцца на прывілеі шляхты.

Самыя харызматычныя асобы са шляхецкага стану ішлі на смелыя эксперыменты. У другой палове XVIII ст. у маёнтку Мерач Віленскага павета граф Павел Ксаверы Бжастоўскі правёў кардынальныя рэформы — Статутам 1769 г., выдадзеным са згоды сялянаў, апошнія абвяшчаліся асабіста вольнымі. У 1786 г. панская зямля была раздадзеная сялянам, а адпрацоўкі замененыя чыншам (грашовым падаткам). У гонар уласніка ад 1767 г. маёнтак стаў звацца Паўлава. А пасля стварэння органаў сялянскага самакіравання гэтая тэрытарыяльна-гаспадарчая адзінка атрымала назву «Паўлаўская рэспубліка».

Падканцлер ВКЛ Яхім Храптовіч у 1770-я стварыў у сваіх Шчорсах узорную гаспадарку. У яго фальварках працавалі толькі найманыя работнікі з ліку мясцовых сялянаў. Прыгонных Храптовіч пераводзіў у статус арандатараў. Шчорсаўскія фальваркі сталі аднымі з найурадлівейшых у краі. Некаторыя рэформы Храптовіча мелі паралелі ў маёнтку Бжастоўскага, але заснаванне «сялянскай рэспублікі» было беспрэцэдэнтным.

На дзяржаўным узроўні рэформы прабіваліся цяжка. Нават Канстытуцыя 3 мая 1791 г. не ліквідавала прыгон. Дзяржава толькі брала пад кантроль выкананне дамоваў паміж землеўласнікамі і іх сялянамі. І толькі ў Паланецкім універсале — заканадаўчым акце начальніка Паўстання 1794 г. Тадэвуша Касцюшкі, выдадзеным 7 мая 1794 г., сяляне аб'яўляліся асабіста вольнымі, але зямлі не атрымлівалі.



Павал Ксаверы Бжастоўскі. Карціна Ксаўера Фарбэ, 1797 г. Пад уплывам ідэяў Русо ён правёў радыкальныя пераўтварэнні ў сваім маёнтку Мерач (Паўлава). За адно пакаленне яго былыя прыгонныя сталі свядомымі грамадзянамі і гаспадарлівымі фермерамі.

Сабатаж на месцах перашкаджаў рэалізацыі закону, а ў наступным, 1795 г., здарыўся і Трэці падзел Рэчы Паспалітай — дзяржава знікла з карты Еўропы.

### Новае запрыгоненне

Царскі ўрад праводзіў палітыку насаджэння расійскага памесьнага землеўладання ў краі. Былыя дзяржаўныя і духоўныя ўладанні, канфіскаваныя маёнткі шляхты, якія адмовіліся прысягнуць, маёнткі ўдзельнікаў паўстанняў раздаваліся расійскім вяльможам і чыноўнікам. Толькі ў 1771—1801 г. у беларуска-літоўскіх губернях было падаравана 250,4 тыс. «рэвізскіх душ» (г.зн. мужчын) сялян. Найперш разышліся дзяржаўныя землі: графу Завадоўскаму дасталася Магілёўская эканомія (каля 26 тыс. сялянаў), князю Пацёмкіну — Крычаўскае староства (звыш 14 «душ»), графу Румянцаву — Гомельская эканомія (11,1 тыс. прыгонных). Раздача казённай зямлі пагаршала прававое становішча сялянаў — цяпер яны не маглі нават скардзіцца ў дзяржаўны суд на ўладароў.

Палякам больш пашэнціла. У 1807 г. пад пратэктаратам Францыі было ўтворанае Варшаўскае княства. Напалеон зацвердзіў яго Канстытуцыю, якая абвяшчала ліквідацыю прыгону. Хуткаплыннасць падзей вайны 1812 г. не дазволіла рэалізаваць падобныя рэформы на нашых землях.

### Доўгі шлях

Але і ў Расіі наспявала разуменне неабходнасці скасавання прыгону. На большай частцы тэрыторыі Расійскай імперыі прыгоннага права не існавала ўвогуле — у Сібіры, у азіяцкіх губернях і казацкіх абласцях, на Паўночным Каўказе, у Фінляндыі і на Алясцы. Крокі на перспектыву спрабаваў рабіць Аляксандр I, які ў 1803 г. сваім «Указам пра вольных хлебаробаў» прапісаў юрыдычны статус вызваленых сялянаў. У 1816—1819 г. прыгон быў скасаваны ў прыбалтыйскіх губернях. Не пашэнціла латышам Латгаліі, якія жылі ў межах Віцебскай губерні, — тут прыгон пратрываў надалей.

Супраць ліквідацыі прыгону рэзка выступала дваранства, апрыішча расійскага абсалютызму. Але да 1850-х у Расіі склалася сітуацыя, калі скасаванне прыгону магло адбыцца і без згоды памешчыкаў. Да сярэдзіны XIX ст. 2/3 дваранскіх маёнткаў і прыгонных сялянаў былі закладзеныя ў забеспячэнне атрыманых ад дзяржаўнага скарбу пазыкаў. Варта было пачаць працэдуру прымусовага выкупу закладзеных маёнткаў — і большасць іх перайшла б да дзяржавы, а прыгонныя аўтаматычна сталі б дзяржаўнымі. У часы Мікалая I такі план і распрацоўваўся, што выклікала незадаволенасць дваранства. Пашыраліся і сялянскія хваляванні. Таму новы ўрад Аляксандра II вырашыў паскорыць вырашэнне пытання.

Праграма адмены прыгону была выкладзеная Аляксандрам II у рэскрыпце (лісце цара, які меў значэнне прававога акта) да віленскага генерал-губернатара Назімава. Чаму менавіта да віленскага? Гісторыкі мяркуюць, што шляхта Беларусі і Літвы, аграрныя гаспадаркі якіх былі сярод самых развітых у Расійскай імперыі, была найбольш падрыхтаваная да правядзення рэформы. А цэнтральнаму ўраду трэба было атрымаць пазітыўныя водгукі на прапановы настолькі сур'ёзных зменаў.

Паводле прапановы цара, прадугледжвалася ліквідацыя асабістай залежнасці сялянаў пры захаванні зямельнага фонду ў руках дваранства. Сялянам выдзялялася пэўная колькасць зямлі, якую яны павінны былі яшчэ выкупляць. Юрыдычная залежнасць сялянаў ліквідавалася пасля заканчэння пераходнага перыяду — праз 12 гадоў.

Гэтыя прапановы леглі ў аснову падпісанага царом 19 лютага (3 сакавіка) 1861 г. Маніфесту і цэлага шэрагу Палажэнняў пра рэформу. Адзінае, што 12-гадовы перыяд залежнасці быў зменены на 9-гадовы перыяд часовых абавязкаў.

Мы можам ацаніць Сялянскую рэформу, пачатую ў 1861 г., як выбітную з'яву, якая прывяла да ўзнікнення капіталістычнай Расіі. Але не варта забывацца, якімі метадамі і за чый кошт царскі ўрад праводзіў пераўтварэнні. У Цэнтральнай Расіі сяляне вымушаныя былі выкупляць зямлю, на якой яны працавалі дзесяцігоддзямі, па кошце ў сярэднім у 2,2 разу вышэйшым за рынкавы, а ў асобных выпадках кошт выкупу ў 5—6 разоў пераўзыходзіў рынкавы. Такім чынам, умовы вызвалення сялянаў у Расіі былі горшымі, чым у Прыбалтыцы, дзе прыгонныя былі вызваленыя яшчэ Аляксандрам I без зямлі, але і без неабходнасці выплачваць выкуп за сябе.

Сваю спецыфіку мела ажыццяўленне рэформы ў Беларусі. Паўстанне радыкальных шляхецкіх колаў у 1863 г. пад лозунгамі ліквідацыі расійскага панавання і стварэння дэмакратычнай Рэчы Паспалітай прымусіў царызм шукаць падтрымкі сярод сялянства. Падчас Паўстання за кожнага схопленага інсургента селянін атрымліваў ад 3 да 5 рублёў, а за знойдзеную ў шляхецкіх маёнтках зброю ўзнагароджваўся сумаю ад 50 капеек да 3 рублёў. Але самыя сур'ёзныя, сістэмныя змены тычыліся ўмоваў рэформы — новым законам 1863 г. выкупныя плацяжы ў Беларусі, Літве і Правабярэжнай Украіне змяншаліся на 20%, а беззямельныя сяляне атрымлівалі свае надзелы. Умовы вызвалення сялянаў у Цэнтральнай Расіі былі значна горшымі. Дзякуючы паўстанню, было палегчана жыццё сялянаў.

### Цяжкая спадчына

У наш час у Паволжы расійскія сацыёлагі высвятлялі ўзровень прадпрымальніцкай актыўнасці. Фенаменальным чынам вынікі супалі з гістарычнымі картамі землеўладанняў — нашчадкі былых прыгонных выяўлялі меншы ўзровень гаспадарчай актыўнасці, чым спадкаемцы асабіста вольных сялянаў XIX ст. Часы несвабоды не мінаюць без слядоў.

Калі ж сёння, прыгадваючы пачатак Вялікай рэформы, мы аддаем належнае цару Аляксандру II у яго дзейнасці дзеля прагрэсу Расіі, то мы не павінны забывацца і на імёны айчынных антыпрыгонніцкіх рэфарматараў — Паўла Бжастоўскага, Яхіма Храптовіча, Тадэвуша Касцюшкі.



Фальварак Мураванка маёнтка Шчорсы. Здымак Язэпа Барэцi, 1894 г. Намаганнямі Яхіма Храптовіча маёнтак Шчорсы ў другой палове XVIII ст. стаў узорнай гаспадаркай. Высокая прадукцыйнасць дасягалася дзякуючы вольнай працы сялянаў.

# Трагедыя «Булгарыі». У спісах зніклых — беларуска

На расійскім цеплаходзе дзіка парушаліся правілы бяспекі.



10 ліпеня ў Татарстане (Расія) на Волзе затануў круізны цеплаход «Булгарыя». Ён кіраваўся з горада Балгар у Казань. Паводле апошніх звестак, на борце, разлічаным на 140 пасажыраў, у момант крушэння знаходзілася 208 чалавек. З іх 25 пасажыраў плылі «зайцам». Уратаваліся 80 чалавек. Сярод загінулых — дзясяткі дзяцей. Усяго іх было на борце каля 60. Многія ў момант катастрофы знаходзіліся ў адной з кают на музычным прадстаўленні. Адтуль іх цяпер і дастаюць вадалазы. «Стараемся не глядзець ім у твар», — плачуць гэтыя дужыя мужчыны.

Сярод незарэгістраваных пасажыраў на борце «Булгарыі» былі беларусы Пятро Пятровіч Петухоў (1946 г.н.) і Ларыса Барысаўна Петухова (1946 г.н.). У спісах МНС Татарстана Пятро Петухоў лічыцца сярод выратаваных. А вось яго жонка загінула.

Карабель патануў у навальніцу. Ацалелыя пасажыры сведчаць: у нейкі момант судна дало моцны крэн на правы бок, а пасля ўвогуле завалілася і за лічаныя хвіліны патанула. Мяркуюць, што бакавая хваля нагнала ваду ў незадраеныя ілюмінатары ніжняга яруса. Яны былі адкрыты, бо не працавала вентыляцыя... Здарылася гэта за тры кіламетры ад берага. Усё адбылося так хутка, што ні каманда, ні пасажыры проста не паспелі спусціць на ваду шлюпкі.

Расійская Генпракуратура па гарачых слядах выявіла шматлікія парушэнні ў эксплуатацыі «Булгарыі». Збудаваны ў 1955 годзе, цеплаход апошні раз мадэрнізаваўся 30 гадоў таму. На момант рэйсу у яго быў няспраўны левы рухавік. Капітан і каманда дапусцілі фатальную перагрузку судна. «Людзі сталі ахвярамі калектыўнага адмаўлення рэальнасці,— піша нямецкая газета Die Tageszeitung. — Расія гніе, і ніхто не хоча зрабіць з гэтага высновы.

12 ліпеня ў Татарстане аб'яўлены днём жалобы.

**Падрыхтаваў Сямён Печанко**

**Двухпалубны дызель-электраход «Булгарыя»**

(праект 785 «Расія») быў пабудаваны ў 1955 на суднаверфі Narodny Podnik Skoda Komarno ў Чэхаславакіі. Даўжыня карабля 78 м, шырыня — 12,2 м, хуткасць да 20,5 км/г. Усяго было зроблена 36 такіх цеплаходаў.

Першапачаткова цеплаход называўся «Украіна», у лютым 2010 года атрымаў назву «Булгарыя» — у гонар старажытнай дзяржавы, што існавала на тэрыторыі сучаснага Татарстана.

**Па беларускіх рэках плаваюць «Мара», «Лось» і «Кірыла Тураўскі»**

У Беларусі дзейнічае 10 рачных партоў. Яны знаходзяцца ў Бабруйску, Брэсце, Віцебску, Гродне, Гомелі, Магілёве, Мазыры, Мікашэвічах, Пінску і Рэчыцы. У Гомелі, Пінску і Рэчыцы месцяцца судабудаўнічыя і сударамонтныя прадпрыемствы. Па Аўгустоўскім канале плаваюць цеплаходы «Вольга Соламава» і «Нёман», у Пінску пасажыраў возіць цеплаход «Віцебск», у Бабруйску — «Мара», а хвалі Сожа рассякае «Брэст». Па Прыпяці можна пракаціцца на цеплаходзе «Кірыла Тураўскі» і на невялікіх суднах «Лось» і «Лань». Прычакалі свайго карабля і Браслаўскія азёры. З нядаўняга часу тут плавае двухпалубны прагулачны цеплаход, які так і завецца — «Браслаўскія азёры». Яго набылі ў прыватніка ў Гомелі і прывезлі на Віцебшчыну па сушы.

**На Мінскім моры патанула яхта**

Апошняе здарэнне на вадзе, звязанае з затапленнем судна, у Беларусі было зафіксаванае месяц таму. У ноч на 11 чэрвеня на Мінскім моры за 1,3 км ад берага падчас выканання манеўру перакулілася невялікая яхта. На борце было 5 чалавек. Усе ацалелі. Самы маладзейшы з іх самастойна даплыў да берага і выклікаў дапамогу.

## Самалёт разбіўся аб гаражы

9 ліпеня ў а 18-й у пасёлку Рось Ваўкавыскага раёна на гаражы ўпаў аднаматорны двухмесны самалёт БЕКАС Х 32, бартавы нумар EW-305SL. Пілот — 47-гадовы Аляксандр Сафонаў, былы вайсковы лётчык, загінуў. Самалёт належаў авіяцыйнаму атраду ТАА «Пружаны Авіяхімсэрвіс». У той дзень яго задзейнічалі для пошукаў зніклай у прылеглым да вёскі Мінеўшчына лясным масіве жанчыны. За гадзіну да катастрофы самалёт вылецеў на пункту базавання ў Пружаны, аднак пілот адхіліўся ад маршруту і скіраваўся ў Рось. Са слоў відавочцаў, самалёт ішоў надзвычай нізка. У пэўны момант пры выкананні віражу зваліўся на крыло, страціў вышыню і зваліўся на гараж. Пры падзенні ён пашкодзіў гараж і аўто, што стаяла ў ім.

Самалёты БЕКАС Х-32 серыйна выпускаюцца з 1993 года ўкраінскай фірмай «Ліліенталь». Гэта лёгкія шматмэтавыя двухмесцавыя самалёты. Максімальная хуткасць — 180 км/г, максімальная вышыня палёту — 4 км.

За апошнія гады ў Беларусі, Расіі і Украіне зафіксаваныя 4 выпадкі крушэння самалётаў БЕКАС Х-32. Ва ўсіх выпадках пілоты гінулі.

## МАЗ з металаломам пратараніў «Рэно» на абгоне

У легкавіку загінулі пяць студэнтаў.

7 ліпеня на аб'язной дарозе пад Гомелем сутыкнуліся МАЗ, гружаны металаломам, і малалітражны легкавік «Рэно». Паводле папярэдняй інфармацыі, у легкавіку ехалі студэнты Гомельскага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта, яны вярталіся з практыкі ў Гомельскім раёне. Усе яны загінулі.

Кіроўцу было 20 гадоў, ён з Лельчыц. Акрамя яго ў машыне было яшчэ тры хлопцы і адна дзяўчына (усім па 19 гадоў): З. з Іванава Брэсцкай вобласці, С. з в. Новыя Галоўчыцы Петрыкаўскага раёна, Л. з Бабруйска, М. з в. Белеў Жыткавіцкага раёна.

Па словах відавочцаў, МАЗ абганяў падводу, у гэты момант конь нібыта рвануўся ў бок грузавіка. Кіроўца МАЗа, пазбягаючы сутыкнення з падводай, выехаў на сустрэчку і пратараніў «Рэно».

**СП**



## У Баранавічах невядомы з нажом напаў на сям'ю

Гаспадыня загінула, яе дачка ўратавалася, скочыўшы з акна другога паверха.

Беспрэцэдэнтны выпадак адбыўся 8 ліпеня ў Баранавічах. Невядомы зламыснік, як мяркуецца, улез у незачынены гараж, адтуль — у склеп, злучаны з прыватным домам, і напаў на гаспадыню і яе дачку. На жаль, абараніць жанчын не было каму — гаспадар быў у ад'ездзе.

Дзяўчынцы цудам удалося выратавацца: яна выскачыла з акна другога паверха. Яе маці, нягледзячы на цяжкія раненні, здолела вырвацца з рук невядомага і пералезці праз плот да суседзяў, якія выклікалі «хуткую» і міліцыю. Жанчыну даставілі ў бальніцу, але выратаваць яе жыццё медыкам не ўдалося. Міліцыя шукае злачынцу.

**Паводле «Intex-press»**

## Былы рэпарцёр АНТ атрымаў пяць гадоў

Былы рэпарцёр АНТ Дзяніс Сухавараў прысуджаны судом Савецкага раёна Мінска да пяці гадоў узмоцненага рэжыму і канфіскацыі маёмасці.

Ён прызнаны вінаватым у махлярстве ў асабліва буйным памеры (ч. 4 арт. 209 КК) і прычыненні маёмаснай шкоды без прыкмет крадзяжу ў буйным памеры (ч. 2 арт. 216 КК).

Нагадаем, паводле інфармацыі ГУУС Мінгарвыканкама, распачыўсюджанай у пачатку красавіка, супрацоўнікамі падраздзялення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі ГУУС і Савецкага РУУС Мінска была завершаная асноўная стадыя праверачных мерапрыемстваў у дачыненні да 31-гадовага ўраджэнца Брэста. Пры гэтым яго прафесійная прыналежнасць не называлася. Берасцеец, які на працягу апошніх гадоў працаваў у Мінску, падазраваўся ў тым, што з красавіка 2008 года па люты 2009 года шляхам прадстаўлення недакладных звестак выкраў грашовыя сродкі банкаў на агульную суму 11.300 даляраў і 10.000 еўра.

У спіс ахвяр махляра ўвайшлі чатыры банкаўскія ўстановы, дзе на яго імя былі аформленыя пять крэдытаў.

Грошы выдаваліся на так званыя спажывецкія патрэбы, аднак, паводле наяўнай у аператыўнікаў інфармацыі, вялікая іх частка была выдаткаваная на наведванне ігральных і забаўляльных установаў.

Даручальнікамі махляра выступалі ў тым ліку калегі па працы. Калі ў іх адрас з банкаў пачалі паступаць патрабаванні аб пагашэнні крэдытаў, адзін з даручальнікаў звярнуўся ў міліцыю.

У інтэрнэце сцвярджалася, што сярод пацярпелых банкаў — ААТ «Банк Масква-Мінск», ААТ «БПС-банк» і ЗАТ «Трастбанк».

**Паводле БелаПАН**

## Тэрмінова патрэбная дапамога: згубіўся чалавек



2 ліпеня (субота) 2011 года ў лесе згубіўся мужчына сталага веку Іван Іванавіч Гігевіч, 1940 года нараджэння.

Ён пайшоў у лес па ягады і каля 11 гадзінаў раніцы згубіўся каля г. Барысава, непадалёк ад вёскі Чырвоны Кастрычнік і дачаў «Белае балота».

Прыкметы: невысокага росту, сівы, быў апрануты ў зялёную куртку, шэрыя штаны, гумавыя боты.

Сваякі просяць небыякавых адгукнуцца: патрэбныя валанцёры і любая дапамога ў пошуках.

Звязацца з роднымі зніклага можна па т.: (029) 650-65-56 (сын Ілля).

## Грузавік МАЗ урэзаўся ў будынак сельсавета. Шафёр загінуў

Выпадак здарыўся ў Маладзечанскім раёне ў панядзелак. Аўтамабіль МАЗ камбіната хлебапрадуктаў урэзаўся ў будынак Цюрлёўскага сельсавета. 48-гадовы кіроўца грузавіка загінуў на месцы здарэння. Іншых пацярпелых няма.

Прычыну трагедыі высвятляе міліцыя. Прычына смерці шафёра пакуль не ўстаноўленая.

**Сяргей Зянько, Рэгіянальная газета**

# Басовішча — 2011

**22—24 ліпеня пад Гарадком на Беласточчыне пройдзе ўнікальны фэст беларускай музыкі «Басовішча-2011».**

Сёлета фестываль пройдзе 22-і раз. На ім выгадаваліся некалькі пакаленняў рок-музыкаў і фанаў рок-музыкі.

Гэтым разам ва ўрочышчы Барок зайграюць 12 беларускіх і польскіх гуртоў, у конкурснай праграме ўдзельнічаюць яшчэ 6 маладых камандаў. Весці «Басовішча» будзе Андрэй Такінданг. Акрамя асноўнай музычнай праграмы «Басовішча-2011» таксама прапануе наведнікам сэты ды-джэяў і майстар-класы.

Пераможцаў, якія атрымаюць тысячу даляраў, абярэ журы ў складзе: Міхал Аўчарэк — журналіст Польскага Радыё (Trójka — Polskie Radio), Багуслаў Каспярук — музыка (Zero-85), Таццяна Заміроўская — музычны крытык.

Арганізатары абяцаюць сёлета зусім новую і яшчэ большую сцэну з лепшым гукам. Запрошаныя гурты, якія прэзентуюць розныя музычныя жанры. Гледачы пачуюць перадусім рок, метал і панк, але таксама фольк ды электрычную музыку. На тэрыторыі «Басовішча» будзе касмічны цэнтр «Байка-Нур» — пляцоўка, дзе будзе магчымасць выпіць піва ды пагуляць пры dj-сэтах найлепшых ды-джэяў Польшчы. «Басовішча», якое паступова перарасло з рокавага ў агульнамузычны фестываль, цяпер ператвараецца ў агульнакультурны. Калі хтосьці стоміцца канцэртамі, то зможа пайсці ў фестывальную кіназалу або павучыцца на майстар-класах.



## Праграма Басовішча-2011

**22 ліпеня**
- 15:30 Вольная Сцэна
- 16:30 Адкрыццё фестывалю
- 16:40 Конкурс маладых гуртоў
- 18:45 Yellow Brick Road
- 19:45 Akute
- 20:45 Zero-85
- 21:45 R.U.T.A.
- 23:00 TT-34
- 00:00 Exist M
- DJ sety / Bajka-Nur :
- 01.00 TOM ENCORE
- 03.00 EASTERN BORDERLINE MASSIVE

**23 ліпеня**
- 11:00 Майстар-клас трафарэтаў
- 12.00 «Кіно, якое трэба ведаць»
- 15:30 Вольная Сцэна
- 17:00 Лаўрэат конкурсу
- 18:00 Beton
- 19:00 DakhaBrakha & Port Mone
- 20:30 Tymon & Transistors
- 22:00 Neuro Dubel
- 23:30 IQ48
- 00:30 Znich

**23 ліпеня**
- 12:00 «Кіно, якое трэба ведаць»
- 15:00 Паказ вынікаў майстар-класаў

У конкурсе маладых гуртоў выступяць 5 выканаўцаў, абраных журы з 22 дасланых заявак
1. Harotnica
- 2. Yellow Power
- 3. Avias
- 4. Vuraj
- 5. Kashlaty Voh

Пры канцы зайграе гурт Amaroka

### КАНЦЭРТЫ

**Neuro Dubel**

**18 ліпеня ў паб-клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16)** зайграе гурт Аляксандра Кулінковіча. Пачатак а 19-й. Даведкі: (29) 638-44-44, (33) 638-44-44.

**Вайцюшкевіч у ДК ветэранаў**

**20 ліпеня ў ДК ветэранаў (Янкі Купалы, 21)** пройдзе музычна-літаратурная вечарына «Аб часе і аб сабе» з нагоды дня народзінаў Змітра Вайцюшкевіча. Квіткі — ад 30 да 50 тысяч рублёў. Набыць іх можна ў пераходзе ст. м. «Пл. Я. Коласа» (выхад да філармоніі) і ў ДК ветэранаў.

**PANaNieba. Сольны канцэрт**

**15 ліпеня ў «Графіці»** пройдзе сольны канцэрт гурта PANaNieba. Пачатак а 20-й. Квіткі можна набыць або проста замовіць па тэлефоне (29) 638-44-44, (33) 638-44-44 (будуць таннейшыя).

**Malanka Orchestra**

**17 ліпеня ў «Графіці»** зайграе Malanka Orchestra. Пачатак а 18-й. Даведкі: (29) 638-44-44, (33) 638-44-44.

### ВЫСТАВЫ

**Aeternus et momentum**

**Да 22 ліпеня ў галерэі сучаснага мастацтва «Ў» (пр. Незалежнасці, 37а)** — рэтраспектыва работ street-art-мастака Андрэя Бусла. Ён пераасэнсоўвае ў тэхніцы street-art сусветныя шэдэўры мастакоў Рэнесансу.

**Ротмістр Вітольд Пілецкі**

**17 ліпеня ў «Графіці»**... 

**Да 24 ліпеня ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе дакументальная выстава «Ротмістр Вітольд Пілецкі. 1901 — 1948». Яе зладзіў Польскі інстытут у Мінску ў гонар нацыянальнага героя — арганізатара польскага падполля ў Асвенцыме і ўдзельніка Варшаўскага паўстання, расстралянага саветамі пасля вайны.

**Арт-лінія**

**Да 17 ліпеня ў Нацыянальнай бібліятэцы** працуе выстава графічных работ студэнтаў Акадэміі мастацтваў у рамках IV Мінскай міжнароднай выставы графікі «Арт-лінія».

**Архетыпная прастора Тудара Збырні**

**З 2 да 18 ліпеня 2011 у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь** будзе працаваць выстава «Архетыпная прастора» малдаўскага мастака, генеральнага дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Малдовы Тудара Збырні.

**«Італія, бацькаўшчына натхнення…»**

**З 2 чэрвеня да 4 верасня 2011 у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь** працуе выстава рускага жывапісу са збору музея «Італія, бацькаўшчына натхнення…» У экспазіцыю выставы ўвайшлі творы Фёдара Матвеева, Сільвестра Шчадрына, Грыгорыя Чарняцова, Івана Айвазоўскага, Сакрата Вараб'ёва, Пімена Арлова, Івана Рэймерса, Аляксандра Папова, Фёдара Броннікава, Арэста Цімашэўскага, Мікалая Ге.







### ТЭАТРЫ

**13 ліпеня**

**Музычны** — «Бабскі бунт»
**Горкага** — «Адзіны спадкаемца»
**Кінаактора** — «Вельмі простая гісторыя»
**Беларускай драматургіі** — «Палёты з анёлам»

**14 ліпеня**

**Музычны** — «Кармэн-сюіта», дывертысмент з балета «Шчаўкунок»
**Моладзевы** — «Згуляем у дружную сям'ю»
**Горкага** — «Уяўны хворы»
**Кінаактора** — «Як выходзяць у людзі, альбо Кожнаму мудрацу хапае прастаты»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

**15 ліпеня**

**Горкага** — «Распуснік»
**Кінаактора** — «Як выходзяць у людзі, альбо Кожнаму мудрацу хапае прастаты»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»

**16 ліпеня**

**Горкага** — «Свабодны шлюб»
**Кінаактора** — «№13»

**17 ліпеня**

**Музычны** — «Аднойчы ў Чыкага»
**Кінаактора** — «№13»

**18 ліпеня**

**Музычны** — «Сільва»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

**19 ліпеня**

**Музычны** — «Блакітная камея»
**Кінаактора** — «…Забыць Герастрата!»
**Беларускай драматургіі** — «Раман+Юлія»

**20 ліпеня**

**Музычны** — «Каханне па-італьянску»
**Кінаактора** — «…Забыць Герастрата!»
**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»
**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»

**21 ліпеня**

**Музычны** — «Любоў па-італьянску»
**Горкага** — «Леў зімой»
**Кінаактора** — «№13»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»

**22 ліпеня**

**Горкага** — «Леў зімой»
**Кінаактора** — «№13»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»

**23 ліпеня**

**Горкага** — «Вяселле Крэчынскага»
**Кінаактора** — «Поле бітвы»

**24 ліпеня**

**Горкага** — «Эдып»
**Кінаактора** — «Поле бітвы»

### КІНО

## Машыны-2

**Cars 2**

ЗША, 2011, каляровы, 112 хв.
**Рэжысёры:** Джон Ласэтэр, Брэд Льюіс
**Жанр:** Анімацыйная пародыя на шпіёнскае кіно
**Адзнака:** 6,5 (з 10)

Герой мульціка, аўтамабіль Мак-Куін і яговы сябра, сельскі пагрузчык Мэтр, выпраўляюцца на міжнародныя спаборніцтвы. Але вясковец Мэтр трапляе ў вір шпіёнскай гісторыі.

«Машыны-2» — пародыя на бандыяну, крутыя баевікі і палітычныя фільмы. У ролі шпіёнаў — аўтамабілі. Аўтамабілі спрачаюцца, мілуюцца, пакутуюць у прыбіральні, рагочуць і нават лётаюць.

Гісторыя разгортваецца як у дарослым баевіку. Аперацыя на нафтавай платформе з аўтамабільнаю перастрэлкаю, злы прафесар з патаемнаю зброяй, мафіёзнікі з расійскімі імёнамі й раздзяўбаным аблічам — прадукт усходнеславянскага аўтапраму.

Да старых герояў далучаецца чатырохколавы агент са звычкамі Шона Конэры й інтэлектуальная легкавушка, але рэй вядзе іржавакаўбоісты Мэтр, ад наіўнасці якога шалеюць ротарныя жаткі й каралевы.

Дэтэктыўны сюжэт дадае імпэту карціне, толькі замінае непасрэднасці. Але ўсё ж маляваны гісторыі пра аўтамабілі хапае чалавечнасці.

**Андрэй Расінскі**



# Прыгоды на выходныя



У Навагрудку турыстаў чакае відовішчная каранацыя Міндоўга

Куды паехаць, калі адпачынку — усяго два дні?

Турыстычны бізнэс — адна з галоўных ахвяраў фінансавага хаосу ў краіне. На дарагія падарожжы ў людзей няма грошай, але адпачываць жа хочацца! Бюджэтны варыянт — туры выходнага дня без адрыву ад працы. «Наша Ніва» робіць агляд прапаноў ад беларускіх турыстычных фірмаў. Хоць, па словах прадстаўнікоў кампаній, экскурсійныя аўтобусы ўсё часцей выязджаюць у падарожжа паўпустымі...

### Глядзі беларускае

Самы-самы ашчадны варыянт — падарожжа па Беларусі. Галоўнае, што для яго не трэба валюты. Перавага такіх тураў яшчэ і ў недалёкай дарозе.

Лідар гэтай часткі рынку — кампанія «Віяполь». Цяпер што да цэнаў на падарожжы. Маршрут «Помнікі Міра і Нясвіжа» з уваходнымі білетамі і абедам каштуе 140 тысяч рублёў. Іншыя аднадзённыя падарожжы па Беларусі каштуюць прыкладна столькі ж. Напрыклад, «Воднае царства Браслава» з заездам у Глыбокае і Мосар абыдзецца ў 120 тысяч рублёў, а «Астравецкая кругасветка» па маршруце Кушляны-Солы-Астравец-Гервяты-Варняны-Міхалішкі — 110 тысяч рублёў. Паўнавартасныя туры на два дні з начоўкай у дарозе каштуюць 300—350 тысяч рублёў з чалавека. Гэта падарожжы ў Брэст з Белавежскай пушчай, Гродна з заездам па дарозе ў Ліду і Полацк заадно з Віцебскам. Улічвайце, што аўтобусы турфірмаў адпраўляюцца нерэгулярна, у адныя выходныя можна ехаць толькі ў Хатынь, а ў іншыя — напрыклад, у Крэва.

Шмат хто абыходзіцца і без паслугаў спецыялістаў — сеў у машыну ці ў рэйсавы аўтобус і паехаў. Бюджэт такога падарожжа кожны выбірае для сябе, можна ўкласціся ў 30 тысяч з чалавека, а можна гульнуць усёй кампаніяй і на мільён. Варта толькі ўлічваць, што дзяржаўныя гасцініцы ў райцэнтрах варта браніраваць загадзя. Звычайна яны просяць за койкамесца 30—35 тысяч.

### Бязвізавы варыянт

Наступным па дарагоўлі з'яўляецца варыянт з падарожжам да бязвізавых суседзяў — у Расію ці Украіну. Такія туры звычайна прадугледжваюць адпраўленне з Мінска ўвечары ў пятніцу і вяртанне раніцай у панядзелак, так што можна яшчэ і на працу паспець. Выбар, шчыра кажучы, не надта вялікі. На поўдзень турфірмы возяць аўтобусы фактычна толькі ў Львоў і Кіеў (каля $85—100 з чалавека ў кожным з выпадкаў). Туры на ўсход, напрыклад, у Санкт-Пецярбург, каштуюць даражэй, каля $150—180 з чалавека, але яны і даўжэйшыя, мінімум на дзве начоўкі. Экскурсій у Маскву на рынку амаль няма, але адзінкавыя прапановы каштуюць $150 за двухдзённае падарожжа з адной начоўкай.

Варта ўдакладніць што апроч указанай цаны турфірмы патрабуюць аплату сваіх паслугаў — ад 30 да 100 тысяч рублёў. Гэта тычыцца і наступных прапаноў — у краіны Еўрасаюза.

### Падарожжа з дадаткам у 60 еўра

Безліч варыянтаў з турам на Захад упіраецца ў наяўнасць ці адсутнасць шэнгенскай візы. Дадатковыя 60 еўра за два дні шпацыру па Вільні — дарагое задавальненне, хоць турфірмы і бяруць усе арганізацыйныя пытанні на сябе.

Падарожжы ў Польшчу робяцца па апісаным вышэй украінскім варыянце — выезд у пятніцу, вяртанне ў панязелак. Асноўныя прапановы ў гэтай краіне — Кракаў з заездам у саляныя шахты Вялічкі і Варшава (па $110-120 з чалавека).

Самы папулярны тур у Літве — Вільня і Трокі ($100). Паколькі дарога ў гэтую краіну вельмі блізкая, турысты абыходзяцца без начных пераездаў. Ёсць яшчэ варыянт з заездам у Каўнас, ён робіць падарожжа даражэйшым на $10—15.

Знайсці тур у Рыгу і не атрымаць у дадатак Вільню амаль немагчыма. Падарожжы па дзвюх сталіцах каштуюць каля $130 і прадугледжваюць дзве начоўкі. Даплаціўшы каля $20, можна пабачыць яшчэ і Талін.

Вядома ж, па ўказаных маршрутах можна адпраўляцца і без дапамогі ад турфірмаў. Але адкрыць самому візу будзе не так і проста — спачатку давядзецца забраніраваць нумар у гатэлі і аплаціць яго паслугі. Яшчэ трэба ўлічваць, што пры падарожжах на ўласным аўто трэба афармляць страхоўку — «зялёную карту» як мінімум за 30 еўра. Затое не варта баяцца шалёных чэргаў на мяжы — яны імгненна зніклі пасля павышэння мытаў на ўвоз аўтамабіляў.

**Ягор Марціновіч**

КУДЫ КОЦІЦЦА СВЕТ

## У школах Індыяны не будуць вучыць пісаць

Дзеці абыдуцца клавіятурай.

У школах амерыканскага штата Індыяна з чацвёртага класа не будуць выкладаць пісьмо. Замест гэтага дзяцей збіраюцца зрабіць «спецыялістамі па выкарыстанні камп'ютарнай клавіятуры». Такую дырэктыву распрацаваў і накіраваў у мясцовыя ўстановы дэпартамент адукацыі штата. Новаўвядзенні могуць уступіць у сілу ўжо гэтай восенню.

Падлічана, што сярэдняя хуткасць набору англамоўнага тэксту на звычайнай клавіятуры складае каля 200 знакаў за хвіліну. Прафесійная машыністка друкуе з хуткасцю 300 знакаў і вышэй. А вось каб запісаць жывую гаворку, трэба набіраць 450 знакаў у хвіліну.

**Newsru.com**

## Нарадзі сямімільярднага!

У канцы 2011 года чакаецца нараджэнне сямімільярднага жыхара Зямлі. Пра гэта гаворыцца ў пасланні Генеральнага сакратара ААН Пан Гі Муна ў сувязі з Сусветным днём народанасельніцтва, які адзначаецца 11 ліпеня.

«Рост колькасці насельніцтва свету да 7 мільярдаў чалавек — знамянальная падзея, але мы заўсёды павінны звяртаць сваю ўвагу не на лічбы, а на людзей, — лічыць кіраўнік ААН. — Менавіта таму я рады, што Фонд ААН у галіне народанасельніцтва напаўняе гэтыя лічбы спецыяльным сэнсам, прыступаючы да ажыццяўлення кампаніі «Сем мільярдаў дзеянняў», каб зрабіць унёсак у пабудову лепшага свету».

**БелТА**



БІЗНЭС-КОЛЫ

## За першае паўгоддзе ў Беларусь увезена 250 тыс. аўтамабіляў

Абсалютны рэкорд паставілі суайчыннікі напярэдадні падвышэння мытаў на легкавікі. Як паведамляе БелТА, у першым паўгоддзі 2011 года на тэрыторыю Беларусі ўвезена рэкордная колькасць легкавых аўтамабіляў — больш за 250 тыс.

У папярэднія гады на тэрыторыю Беларусі ўвозілася прыкладна 180—200 тысяч аўтамабіляў за год.

МУЗЕІ

## У Гомелі адкрыюць музей фатаграфіі

Там можна будзе сфатаграфавацца ва ўборах розных эпох.

Дзякуючы дапамозе гомельскіх фатографаў у горадзе ўдалося сабраць калекцыю старадаўніх фотаапаратаў і абсталявання. Сярод рарытэтаў — стацыянарны апарат XX стагоддзя для павільённага здымання, першыя фотакамеры савецкай і беларускай вытворчасці. Усё гэта будзе прадстаўлена ў экспазіцыі новага музея, які адкрыюць як філіял Музея гісторыі горада Гомеля. Зразумела, што падобныя калекцыі немагчымыя без фатаграфій, таму ў музеі плануюць стварыць аддзел дакументальнага фота.

Акрамя таго, пры музеі плануецца адкрыць фотастудыю, дзе можна будзе сфатаграфавацца ва ўборах розных эпох.

**БелТА**

### Спорт сцісла

• **Зімовыя алімпійскія гульні пройдуць у карэйскім Пхёнчхане.** У сераду ў Дурбане (ПАР) Пхёнчхан быў абраны месцам правядзення зімовай Алімпіяды 2018 года.

Такім чынам, Азія трэці раз прыме Зімовую алімпіяду (Сапара-72, Нагана-98). У 1988 г. у Карэі прайшлі Летнія алімпійскія гульні. У 2014 Зімовая алімпіяда пройдзе ў Сочы (Расія).

• **Галоўны трэнер пад пытаннем.** Ніяк не вырашыцца сітуацыя з галоўным трэнерам зборнай Беларусі па хакею. Уладзімір Крыкуноў, які прыводзіў каманду да чацвёртага месца на Алімпіядзе, быў вымушаны адмовіцца, бо так патрабуе ягоны казанскі «Ак барс». Разглядаўся варыянт з латышом Алегам Знарокам, але кіраўніцтва маскоўскага «Дынама» таксама супраць. Федэрацыя ў пошуках.

• **Пунтус развітаўся з Брэстам.** Праўленне брэсцкага «Дынама» прыняла адстаўку галоўнага трэнера каманды Юрыя Пунтуса. Пасля сямнаццаці тураў першынства краіны «Дынама» займае апошні радок. Клуб не можа перамагчы ўжо цягам двух месяцаў. Пунтус быў першым трэнерам адноўленага ў 1990-я БАТЭ, потым трэніраваў зборную і мінскі МТЗ-РІПА, але нідзе, акрамя Барысава, поспехаў не дасягнуў.

• **«Мінск» сустрэнецца з туркамі.** У другім кваліфікацыйным раўндзе Лігі Еўропы «Мінск» сустрэнецца з турэцкім «Газіянтэпспорам». Каманда прадстаўляе горад Газіянтэп, што на самай мяжы з Сірыяй. Да 1920-ых большую частку гарадскога насельніцтва складалі армяне. У свой час за «Газіянтэпспор» гулялі беларусы Максім Рамашчанка, Эрык Яхімовіч, Мікалай Рындзюк.

**ЗП**

# На Ашманшчыне котка ўсынавіла шчанюка

У вёсцы Баранцы (Ашмянскі раён Гродзенскай вобласці) котка «ўсынавіла» шчанюка, пасля таго як яго маці памерла пры родах. У першыя дні жыцця нямоглы шчанюк забіваўся ў кут і скуголіў. Гаспадыня не ведала, што рабіць з сабачанём, пакуль раптам у адзін з дзён да шчанюка не падышла котка, якая нядаўна акацілася. Яна доўга прыглядалася да стварэння, што хныкала, потым пачала яго абнюхваць.

Калі гаспадыня зразумела, што яе котка не зробіць шкоды шчанюку, паспрабавала падсадзіць і пакарміць малое. Ён адразу ж уткнуўся ў цёплы жывот новай маці. Яна пачала вылізваць, карміць яго, гуляць з ім.

Сёння ў кошына-сабачай сям'і пануе ідылія. Падчас кармлення шчанюк павісквае ад захаплення. А котка — прыёмная мама — укладваецца ямчэй, імкнучыся дагадзіць дзецям. Бо разам са шчанюком яна выкормлівае і сваё роднае кацяня.





Калі няўрымслівае сабачаня спрабуе ад яе ўцячы, яна лапай прымушае яго вярнуцца ва ўлонне сям'і. Котка кліча шчанятка, а ён, як паслухмянае дзіця, адразу адгукаецца. Прычым калі котка мяўкае, то сабака спрабуе гаўкаць. Як яны разумеюць адно аднаго — загадка.

Прыклады гарманічнага і мірнага суіснавання, спачування і бескарыслівай любові нам падаюць жывёлы. Нам, людзям, ёсць не толькі чаму падзівіцца, але і павучыцца.

**Вераніка Вішнеўская,**
**«Ашмянскі веснік»**



Супрацоўнікі ДАІ на экскурсіі ў палацы Румянцавых-Паскевічаў у Гомелі.




Фанаты вывесілі беларускамоўны банер на трыбунах «Дынама» падчас гульні каманды «Мінск» з АЗАЛ (Баку) у рамках кваліфікацыйнага раўнду Лігі Еўропы. Нашы футбалісты натхніліся і перамаглі 2:0.




Мексіканскі гангстар Хуан Рамірас Т'ерыне збіраўся ўцячы з турмы, дзе адседжвае 20-гадовы тэрмін, у чамадане. Яго грамадзянская жонка прыйшла на спатканне з вялізнай валізай вопраткі. Ахоўнікі звярнулі ўвагу, што пасля візіту чамадан значна пацяжэў. Адчынілі — і пабачылі самога Хуана Раміраса.

## Анекдоты

* * *

У Амерыцы паліцыю выклікаюць па тэлефоне 911, у Расіі — па тэлефоне 02, у Беларусі досыць пляснуць у ладкі.

* * *

Выхавацелька дзіцячага садка навучыла дзетак гуляць у ладкі і трапіла ў СІЗА за падрыхтоўку масавых беспарадкаў.

* * *

У Беларусі жыццё як у казцы: пляснеш у ладкі — з'яўляюцца невядома адкуль хлапцы і нясуць у трыдзявятае царства.

* * *

Жаночыя пакуты. Добра мужыкам: захацеў купіць вопратку — пайшоў і купіў!

* * *

2060. Выходзіць на экраны апошні фільм паводле рамана Джаан Роўлінг. «Гары Потэр і пенсійнае пасведчанне».

* * *

Удзельнікі гурту «Рамштайн» на канцэрце ў Мінску не пачулі апладысментаў (у першым шэрагу сядзеў палкоўнік Яўсееў) і прынялі рашэнне завяршыць кар'еру.

## «НН» сто гадоў з вамі

Як ужо вядома, французы памаглі мараканскаму султану затушыць рэвалюцыю, каторую проці яго паднялі яго падданыя. Але ў палітыцы ніхто дарма нічога не робіць: гэтак і французы патрабавалі сабе награду. Награда гэта — патайны дагавор між Францыяй і султанам, каторы аддае Марока зусім пад апеку французаў: французы будуць падтрымліваць уладу султана і бараніць яго ад падданых, французскі дзяржаўны банк адкрые султану крэдыт на 100 мільёнаў рублёў — і за ўсё гэта султан не будзе мець права рабіць якія-небудзь дагаворы з іншымі дзяржавамі без згоды Францыі.

**«НН». № 25—26. 1911.**

Верны памагаты Лукашэнкі Аляксандр Зімоўскі ў праграме «Рэзананс» выказаў непакой пра наменклатуру: «Адлучаная ад кармушкі наменклатура падтрымлівае Домаша з асабістых інтарэсаў». Адназначым стылёвую неахайнасць Зімоўскага: з яго словаў вынікае, што далучаная да кармушкі наменклатура беззасцярожна падтрымае Лукашэнку.

**«НН». № 26. 2001.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
**Наклад 7440.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 12.07.2011.
Замова №3308.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614